ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

Каталіцкі ВЕСНІК

№3 (60) сакавік 2016 год

CATHOLICNEWS.BY



# Велікоднае пасланне біскупа Алега Буткевіча

**Дарагія вернікі Віцебскай дыяцэзіі, паважаныя браты і сёстры ў Хрысце!**

Скончыўшы саракадзённы пост, мы з вялікай радасцю сустракаем Свята Уваскрасення нашага Збаўцы Езуса Хрыста. Непасрэднымі ўдзельнікамі і першымі сведкамі Пасхальных падзей Хрыста сталі апосталы, і дзякуючы ім мы сёння вызнаём праўду пра ўваскрасенне з мёртвых. Гэтая праўда змяніла жыццё апосталаў, якія паверылі і пераканаліся, што іх Настаўнік – гэта ***"Хрыстос, Сын Бога жывога"*** (Мц 16.16), Які ўваскрос і ***"...сядзіць праваруч ад Бога"*** (Гбр 10,12). Гэтая праўда павінна і сёння змяняць у першую чаргу жыццё тых, хто яе вызнае. Калі чуем у гэтыя дні радасны вокліч **"Хрыстос уваскрос!"**, то наш адказ – **"Сапраўды ўваскрос!"** – няхай будзе выразам моцнай веры ў тое, што Хрыстос сапраўды жыве, прабывае з намі ***"...ва ўсе дні аж да сканчэння веку"*** (Мц 28, 20).

Вызнаваць гэтую праўду ў сучасным свеце, які часта варожа настаўлены да хрысціянскіх каштоўнасцей, нялёгка. Ёсць шмат краінаў, дзе і сёння расплатай за веру ва Уваскрослага Хрыста з'яўляецца пралітая кроў мучанікаў. Гэтай крывёй зусім нядаўна была багата акраплена і наша зямля. Таксама і для нас штодзённае жыццё часта кладзецца на плечы непасільным крыжам: пошук працы, змаганне з невылечнай хваробай, здрада мужа ці жонкі, вызваленне ад алкагольнай ці наркатычнай залежнасці... Ва ўсе вякі моц для знясення пакутаў і пераадолення цяжкасцяў хрысціянам давала вера ва Уваскрослага і прысутнага ў іх жыцці Збаўцу. Таму і нам няхай заўсёды спадарожнічаюць словы Хрыста, сказаныя Ім падчас Апошняй Вячэры: ***"...У свеце будзеце мець прыгнёт, але будзьце адважныя: Я перамог свет"***. (Ян 16.33).

І сёння мы бяром удзел у гэтай перамозе Божага Сына. Прайшоўшы праз браму смерці і вярнуўшыся да жыцця, Хрыстос скіроўвае да нас словы, як калісьці да Апосталаў: ***"Супакой вам"*** (Лк 24,36). Няхай гэты супакой заквітнее глыбокай верай, непахіснай надзеяй і трывалай любоўю ў жыцці кожнага з вас і дапаможа стацца па-сапраўднаму міласэрнымі, як наш нябесны Айцец! **Божага святла і радасці ў Дзень Вялікай Хрыстовай Пасхі! Хрыстос Уваскрос! Алелюя!**

**+Алег Буткевіч**
**Біскуп Віцебскі**



## Беларуская манахіня на місіі ў Аўстраліі

*Стар. 8*

## Пошук новых звестак пра Скарыну вядзецца ў Ватыкане

*Стар. 3*



## Piligrymka.by запрашае ў паломніцтвы да святых мясцін

*Стар. 12*



# Смяротнае пакаранне



**Месяц назад у Рыме адбылася міжнародная канферэнцыя, прысвечаная тэме смяротнага пакарання.**

**а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

Напярэдадні яе Папа Францішак у сваёй прамове пасля малітвы "Анёл Панскі" ў Ватыкане падтрымаў ініцыятывы па адмене смяротнага пакарання ў свеце і пажадаў, каб дадзены форум даў новы імпульс дзейнасці, накіраванай супраць пакарання смерцю. Як паведамляе Беларуская служба Ватыканскага радыё, Пантыфік падкрэсліў, *"што сучасныя грамадствы маюць магчымасці для эфектыўнага стрымання злачынцаў, не пазбаўляючы іх права адкуплення за здзейсненыя правіны"*.

Год назад, 20 сакавіка 2015 г., Святы Айцец сустракаўся з прадстаўнікамі Міжнароднай камісіі супраць смяротнага пакарання. Тады ён таксама звярнуў увагу на вучэнне Касцёла, якое гаворыць пра абарону жыцця ад зачацця да натуральнай смерці. Папа падкрэсліў, што ў сучасным свеце *"смяротнаепакараннеднедапушчальнае"*, бо мэтай правасуддзя не можа быць помста. Акрамя таго, пакаранне смерцю не выключае магчымасці судовай памылкі. "Людская справядлівасць недасканалая, і непрызнанне сваёй памылковасці можа ператварыць яе ў крыніцу несправядлівасці", – падкрэсліў Святы Айцец. Гэты від пакарання выкарыстоўваецца таксама таталітарнымі рэжымамі для вынішчэння палітычных дысідэнтаў, нацыянальных меншасцяў і іншых катэгорый людзей.

Асаблівымі прыхільнікамі забароны смяротнага пакарання былі таксама Папы св. Ян Павел ІІ і Бэнэдыкт XVI. Святы Ян Павел ІІ сваім вучэннем змяніў падыход Касцёла да смяротнага пакарання і менталітэту католікаў у гэтай справе. Калі раней Касцёл пагаджаўся на смяротнае пакаранне ў асаблівых выпадках, то сёння ў сувязі са зменай гістарычных абставінаў такая пазіцыя страціла сваю абгрунтаванасць. Ян Павел ІІ назваў смяротнае пакаранне элементам «культуры смерці». У 1995 г. ён апублікаваў энцыкліку «Evangelium vitae» («Евангелле жыцця»), у якой выразна выказаўся супраць практыкі смяротнага пакарання. Папа Бэнэдыкт XVI сцвярджаў, што смяротнае пакаранне – гэта не толькі замах на чалавечае жыццё, але і абраза чалавечай годнасці.

> "Папа падкрэсліў, што ў сучасным свеце "смяротнае пакаранне недапушчальнае", бо мэтай правасуддзя не можа быць помста"

Дадзеная праблема застаецца актуальнай для нашай краіны. Сёння Беларусь – адзіная краіна ў Еўропе, дзе яшчэ прымяняецца смяротная кара. Гэты від крымінальнага пакарання нават запісаны ў Канстытуцыю. Артыкул 24 Асноўнага закона краіны гаворыць: *"Смяротнае пакаранне да яго адмены можа прымяняцца ў адпаведнасці з законам як выключная мера пакарання за асабліва цяжкія злачынствы і толькі згодна з прыгаворам суда"*.

Былы старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Рыгор Васілевіч у нядаўнім артыкуле на партале Tut.by звяртае ўвагу, што дадзеная норма было абумоўлена, перш за ўсё, крыміналгеннай сітуацыяй, якая існавала на момант падрыхтоўкі і прыняцця Канстытуцыі. Юрыст зазначае, што *"досвед не толькі краін заходняй, еўрапейскай дэмакратыі, але і былых рэспублік СССР сведчыць, што смяротнае пакаранне ў сучасных умовах траціць сваё значэнне... Адмена такой выключнай меры пакарання, як смяротная кара, – гэта яшчэ і сведчанне таго, што дзяржава паспяхова выконвае сваю праваахоўную функцыю апошнія 20 гадоў"*.

> "Сёння Беларусь – адзіная краіна ў Еўропе, дзе яшчэ прымяняецца смяротная кара"

Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч закончыў свой даклад на Міжнароднай канферэнцыі «Несмяротнае пакаранне: вытокі адказнай пазіцыі» ў 2014 г. такімі словамі: *"Беларусь – краіна з багатай хрысціянскай гісторыяй, і яна не адзін раз, нават у часы цяжкіх выпрабаванняў, гэта пацвердзіла. Малю міласэрнага Бога і выказваю надзею на адмену смяротнага пакарання або хаця б на ўвядзенне мараторыю на яго ў нашай Бацькаўшчыне, каб Беларусь сапраўды была краінай, якая прапагандуе цывілізацыю жыцця, і краінай, якая рашуча кажа: "Так – жыццю, не – смяротнаму пакаранню!"*

# У Вільні ў касцёле святога Варфаламея набажэнствы будуць весціся толькі па-беларуску



У Вільні 13 сакавіка ў касцёле святога Варфаламея падчас нядзельнай святой Імшы дапаможны біскуп Віленскай архідыяцэзіі Арунас Панішкайціс абвясціў, што з гэтага дня набажэнствы ў касцёле будуць весціся толькі па-беларуску, бо святыня перададзеная супольнасці віленскіх беларусаў.

Звяртаючыся да вернікаў, біскуп Панішкайціс нагадаў, што ў Вільні ёсць касцёлы, дзе святыя Імшы служацца толькі на адной мове – польскай, літоўскай ці ўкраінскай, таму "лагічна, што і беларусы павінны мець свой касцёл", – паведамляюць westki.info.

Святую Імшу біскуп Панішкайціс служыў па-беларуску, падкрэсліўшы, што беларусы – не чужыя ў Віленскай архідыяцэзіі.

Душпастырам для беларусаў Вільні прызначаны айцец Арыюш Малыска OFMCap з супольнасці меншых братоў капуцынаў.

Набажэнствы на беларускай мове будуць адбывацца штодзённа а 18.00. У нядзелю будуць дзве Імшы на беларускай мове: а 10.00 і 12.00.

*krynica.info*

# Кроў святога Яна Паўла ІІ знаходзіцца ў Браславе

**У санктуарыі Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе існуе капліца святога Яна Паўла ІІ.**



Як паведамляе парафіяльны сайт, з правага боку ад цэнтральнага ўваходу ў святыню выстаўлены для ўшанавання і пакланення рэлікварый з крывёй святога Папы.

Кардынал Станіслаў Дзівіш быў асабістым сакратаром Папы Яна Паўла ІІ у 1978-2005 гг. Ён перадаў рэліквіі браслаўскаму санктуарыю ў 2015 годзе праз правінцыяла айцоў-сальватарыянаў кс. Пятра Філяса SDS.

У святыні знаходзіцца яшчэ і іншая рэліквія – асабістая сутана Папы Рымскага Яна Паўла ІІ, якая захоўваецца за шклом.

Айцы-сальватарыяне, апекуны касцёла Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе, запрашаюць да малітвы праз заступніцтва Маці Божай і св. Яна Паўла ІІ, апекуна сем'яў. У сучасным свеце кожнай сям'і асабліва патрэбныя малітва і Бог, бо грамадства з усіх бакоў акружанае пагрозамі і спакусамі злога духа.

Святы Ян Павел ІІ, абарaняй беларускія сем'і праз сваё заступніцтва, каб трывалі ва ўзаемнай любові!




# Сталі вядомыя тэрміны біскупскай візітацыі ў Віцебскай дыяцэзіі

Канцлер Віцебскай дыяцэзіі кс. Адам Дынак паведаміў, што ў красавіку 2016 года распачынаецца пастырская візітацыя парафій. Біскуп Алег Буткевіч наведае кожную супольнасць католікаў. Таксама гэта нагода для кіраўніка дыяцэзіі паглыбіць кантакты з душпастырамі, вернікамі і рознымі малітоўнымі і апостальскімі супольнасцямі, якія існуюць у парафіях.

Падчас такіх сустрэч адбудзецца супольная Эўхарыстыя. Будзе магчымасць падзякаваць Пану Богу за ўчыненыя дасягненні і разгледзець актуальныя пытанні з жыцця мясцовага касцёла.

**Расклад візітацый парафій у Віцебскай дыяцэзіі:**

**10 красавіка** – парафія Святога Юзафа, Орша;
**17 красавіка** – парафія Беззаганнага Сэрца Марыі, Орша;
**24 красавіка** – парафія Святога Антонія, Талачын;
**26 красавіка** – парафія Маці Божай Фацімскай, Дуброўна;
**1 мая** – парафія Святога Казіміра, Лепель;
**8 мая** – парафія Святога Лаўрэнція, Ушачы; парафія ў Блізніцы;
**15 мая** – парафія Святых Апосталаў Пятра і Паўла, Бешанковічы;
**21 мая** – парафія Святой Марыі Магдалены, Новалукомль;
**21 мая** – парафія Перамянення Пана, Чашнікі;
**5 чэрвеня** – парафія Святога Айца Піа, Лёзна;
**12 чэрвеня** – парафія Святога Антонія, Віцебск;
**19 чэрвеня** – парафія Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі, Гарадок;
**26 чэрвеня** – парафія Маці Божай Фацімскай і Святога Язафата Кунцэвіча, Шуміліна.

У раскладзе магчымы змены.

Візітацыя з'яўляецца адной з найбольш важных падзей для кожнай парафіяльнай супольнасці, прадугледжанай у праве Касцёла (у Кодэксе Кананічнага Права).

Візітацыя біскупа ў дыяцэзіі з'яўляецца апостальскай дзейнасцю і паказвае, што біскуп – гэта падмурак і знак еднасці дыяцэзіяльнага Касцёла.



# Пошук новых звестак пра Скарыну вядзецца ў Ватыкане

**Новыя падрабязнасці пра жыццё Францішка Скарыны спрабуе знайсці сярод ватыканскіх архіўных дакументаў гісторык і мовазнаўца Алесь Жлутка.**

На працягу некалькіх дзён ён працаваў у Ватыканскім сакрэтным архіве, каб пацвердзіць версію пра магчымую прысутнасць беларускага першадрукара на V Латэранскім Саборы, які праходзіў у 1512-1514 гг.

У каментары для Беларускай рэдакцыі Ватыканскага радыё Алесь Жлутка распавёў, што падобная гіпотэза належыць "маладому, але вядомаму перакладчыку і пісьменніку" Антону Францішку Брылю. Ён звярнуў увагу на існаванне дакумента, у якім цырымоніймайстар Папы Юлія ІІ кажа пра прысутнасць на Саборы пасольства караля Даніі Ханса, у складзе якога мог быць і Скарына. Гаворка ідзе пра 1512 г.

"У тым годзе Францішак Скарына абараніў доктарскую дысертацыю ў Падуанскім універсітэце, дзе ў дакументах ён пазначаны як сакратар дацкага караля. Гэтыя дзве падзеі раздзяляюць толькі тры месяцы. Цалкам магчыма, што Францішак Скарына ўдзельнічаў у гэтым пасольстве да Папы Рымскага ў сувязі з Латэранскім Саборам. Магчыма, што на адваротным шляху ён якраз і абараніў доктарскую дысертацыю ў Падуі", – адзначыў Алесь Жлутка.

Пакуль дакладных звестак пра самога Скарыну ў складзе дацкага пасольства на Саборы адшукаць не атрымалася, але аналіз дакументаў, звязаных з гэтай гіпотэзай, працягваецца.

Алесь Жлутка распавёў, што ў біяграфіі Францішка Скарыны застаюцца белыя плямы. Пасля атрымання ім ступені бакалаўра ў Кракаве ў 1508 г. звесткі пра яго знікаюць, і менавіта да 1512 г. Дзе ён знаходзіўся ў гэты час – невядома. Дзе атрымаў магістарскую ступень – таксама. Калі пацвердзіцца версія пра яго прысутнасць на Латэранскім Саборы, то з'явіцца падставы для пошуку звестак па яго біяграфіі ў іншых накірунках, мяркуе гісторык.

Няшмат вядома і пра маладыя гады будучага першадрукара. Алесь Жлутка заўважыў, што ў гэты перыяд у Полацку быў заснаваны бернардынскі кляштар, пры якім Скарына мог атрымаць першую адукацыю, і нават імя Францішак – у гонар св. Францішка Асізскага, заснавальніка ордэна меншых братоў, які на тэрыторыі ВКЛ і Польшчы называлі "бернардынскім". Яго далейшая вучоба ў Вільні і Кракаве таксама супадае з арэалам дзейнасці гэтай манаскай супольнасці. Не выключана, што Скарына мог мець мецэнатаў сярод яе чальцоў.

Паводле Алеся Жлуткі, важна працягваць даследаваць асобу Францішка Скарыны і ў кантэксце ініцыятывы адносна яго кананізацыі.

"Калі ўзяць яго прадмовы, яны самі па сабе сведчаць: у іх ён выглядае чалавекам глыбокай веры, а таксама патрыётам свайё Бацькаўшчыны, чалавекам, які любіць і Айчыну, і людзей, што жывуць на гэтай зямлі, з якой ён выйшаў. Ён узяў на сябе такую велізарную працу, якая не давала яму ніякіх матэрыяльных дэвідэнтаў. Сама асоба Скарыны, я думаю, заслугоўвае кананізацыі, паколькі гэта чалавек незвычайнага таленту, які з'яўляўся перакладчыкам Бібліі. Ён адрасаваў яе людзям "рускага языка" – у сэнсе, старабеларускай мовы, а таксама праваслаўнаму насельніцтву. Выглядае так, што гэта была яго экуменічная місія, мэтай якой было паяднанне хрысціянскіх плыняў праз Божае слова", – мяркуе гісторык.

Паводле Алеся Жлуткі, выдадзеная Скарынам Біблія перапісвалася і распаўсюджвалася. Зафіксаваны запазычанасці з яго перакладу, што сведчыць пра яе шырокае выкарыстанне і папулярнасць. Даследчык не траціць надзеі на тое, што праца беларускага першадрукара паслужыць натхненнем і для сучаснага перакладу Святога Пісання ў Беларусі.

*Ватыканскае радыё*

# Ураджэнец Мёраў стаў святаром-цыстэрцыянцам

20 лютага цыстэрцыянец а. Уладзімір Лапацкі, які паходзіць з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мёрах, у польскім Енджэёве прыняў з рук біскупа Яна Пятроўскага святарскае пасвячэнне.

У другую нядзелю Вялікага посту, 21 лютага, новапрэзбітэр а. Уладзімір канцэлебраваў сваю прыміцыйную Імшу ў кляштарным касцёле айцоў-цыстэрцыянцаў.

*Паводле матэрыялаў jedrzejow.cystersi.pl*



**Даведка з Вікіпедыі.** Цыстэрцыянцы (лац. Ordo Cisterciensis, OCist), белыя манахі, бернардынцы – каталіцкі манаскі ордэн, які ў XI стагоддзі адгалінаваўся ад бэнэдыктынскага ордэна. У сувязі з выбітнай роляй у станаўленні ордэна, якую адыграў святы Бернард Клервоскі, у некаторых краінах прынята называць цыстэрцыянцаў бернардынцамі. Манахі гэтага ордэна вядуць пустэльніцкі лад жыцця. У духоўным сэнсе вялікую ролю адыгрываюць аскетычныя практыкі і засяроджанае манаскае жыццё. Для цыстэрцыянскіх святынь характэрна амаль поўная адсутнасць каштоўных рэчаў, жывапісу і шыкоўных інтэр'ераў.

# «Адпустовы канфесіянал» з'явіўся ў гродзенскай катэдры

**Першага сакавіка ў катэдральным касцёле святога Францішка Ксаверыя ў Гродне з'явіўся адмысловы «адпустовы канфесіянал», у якім на працягу дня можна прыступіць да сакраманту пакаяння.**

■ Ілья Лапато



Стварэнне такога канфесіянала было ініцыяванае гродзенскім ардынарыем біскупам Аляксандрам Кашкевічам і святарскай радай. Ідэя стала адказам на заклік Папы Францішка адкрыць вернікам праз сакрамант пакаяння шлях да Божай міласэрнасці.

«Адпустовы канфесіянал» будзе дзейнічаць да канца Года Міласэрнасці, да 20 лістапада. Прыступіць да сакраманту пакаяння ў гэтым канфесіянале можна будзе штодзённа з 8.00 да 20.00.

Як распавёў Catholic.by пробашч гродзенскай катэдральнай парафіі кс. Ян Кучынскі, дзяжурыць у канфесіянале будуць па чарзе святары з гродзенскіх дэканатаў і Сапоцкінскага дэканата.

Чакаецца, што падобная ініцыятыва можа ўзнікнуць і ў іншых святынях Гродзенскай дыяцэзіі, у якіх адчынены Брамы Міласэрнасці.

# Як выглядаў бы касцёл св. Стэфана ў сучасным Полацку?

Беларускі архітэктар Аляксандр Невар зрабіў чарговую рэканструкцыю з дапамогай камп'ютара і ўзнавіў касцёл Святога Стэфана на фота сучаснага Полацка.

На здымку можна ўбачыць, як цяпер выглядаў бы касцёл св. Стэфана (пазней – праваслаўны сабор), што быў знішчаны савецкімі ўладамі ў 1964 годзе.

*Беларускае Радыё Рацыя*



# Росіцкі святар з нагоды 8 Сакавіка падарыў сваім парафіянкам цюльпаны, якія сам вырасціў



**Вёску Росіца, што ў Верхнядзвінскім раёне Віцебскай вобласці, усё часцей наведваюць турысты і пілігрымы з розных мясцін Беларусі.**

**■ кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Прычынай гэтаму – асаблівы статус санктуарыя росіцкай святыні, якая памятае пакутніцкую смерць людзей у гады Другой сусветнай вайны. Але вабіць Росіца наведвальнікаў і па іншай прычыне. Тут працуе айцец Чэслаў Курэчка MIC, які сваёй працай і любоўю да кветак стварыў з касцельнага наваколля суцэльную прыгажосць.

Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка" выбралася ў госці да айца Чэслава па яго асабістым запрашэнні. Нагода адметная: заквітнелі цюльпаны.

Увайшоўшы ў плябанію і прывітаўшыся з гасцінным святаром, адразу чуем ад яго: "Ніякіх камер. Вы з дарогі і галодныя. Будзем абедаць". Хоць гэтыя словы і былі прамоўленыя ветліва і з усмешкай, аднак іх настойлівасць і наша стомленасць ад дарогі хутка прымушаюць пагадзіцца.

"Кс. Віктар, у цябе лёгкая рука, вось апалонік. Мяшай суп. Я яго сам гатаваў, калі чакаў вас. Будзе смачны. Фасолевы", – распараджаецца айцец Чэслаў. Паслухмяна бяру ў руку апалонік і памешваю ў каструлі пахучае варыва. Айцец ідзе па пятрушку, а наш фотакар Марына расстаўляе талеркі. Анягож, рэдакцыя мусіць спраўна дзейнічаць і ў кухні.

Калі ўсё падрыхтавана, да нас далучаецца а. Андрэй Сідаровіч MIC і пачынаецца абед. За сталом першай тэмай размовы становіцца нядаўняя прэзідэнцкая прэмія "За духоўнае адраджэнне", якую атрымаў айцец Чэслаў.

## Што сказаў святар Прэзідэнту?

"Ці хваляваліся Вы, калі ехалі ў Мінск?" – пытаюся. "А ведаеце, не", – адказвае святар. – Было крыху стомленасці, усё-такі дарога далёкая, цэлая світа пры мне: мае сябры, прадстаўнікі мясцовых уладаў".

– А ці гутарылі Вы хоць трошкі з Прэзідэнтам? – задае пытанне Марына.

– У нас былі дзве рэпетыцыі ў Палацы Рэспублікі. І арганізатары казалі: "Не затрымлівайцеся і сыходзьце, як толькі атрымаеце прэмію". Я адразу сабе падумаў: што з таго, што я вазьму гэтую прэмію і проста сыду са сцэны? Гэта ж і не зусім культурна. Таму як толькі паціснуў руку Прэзідэнту, так яму і кажу: "Прыязджайце да нас, у Росіцу. У нас месца святое і намоленае, там вельмі прыгожа". А ён мне: "Айцец Чэслаў, я ведаю, як моцна Вы там напрацаваліся. Дзякуй Вам за гэта!"

## Цюльпаны ў гонар мучанікаў

Пасля абеду айцец Чэслаў запрашае нас у вялікую залу і паказвае сваіх гадаванцаў. "Я цюльпаны люблю з дзяцінства. Памятаю, быў студэнтам, то купіў трохі цыбулінак, каб пасадзіць ля хаты, дык тата мяне дакараў крыху: навошта, маўляў, ты, сыне, на кветкі грошы марнуеш?"

На маё пытанне па тэхналогіі кветкаводства святар кажа: "Кветкі трэба любіць. А цюльпаны вельмі лёгка вырошчваць. Цыбулінкі можна як бульбу дзяліць. Я саджу іх у кастрычніку і пераношу ў скрынях у падвал. Там тэмпература пастаянная і да вясны яны там сабе сядзяць. А ў лютым я іх падманваю, што вясна ўжо прыйшла. Прыношу ў пакой, дзе цёпла і светла, вось яны і вырастаюць, каб прывітаць сакавік сваёй прыгажосцю. Я адразу, як толькі прыехаў у Росіцу, купіў 1528 чырвоных цюльпанаў і пасадзіў іх ля касцёла. Гэта даніна памяці тым, хто нявінна загінуў вайною. Менавіта столькі людзей было спалена фашыстамі ў Росіцы і наваколлі. Але сёння Росіца – гэта месца не жалобы, а жыцця і радасці. Таму хадземце, павіншуем жынчын са святам вясны".

Сядаем у машыну і едзем па хатах, якія айцец нам паказвае. Вернікаў у вёсцы няшмат, але святар віншуе не толькі жанчын-каталічак. Вось сустракаем мясцовую паштарку Наталлю. Маладая жанчына спачатку не разумее, што адбываецца. Але калі з машыны выходзіць айцец Чэслаў з кветкамі ў руках, шчырая ўсмешка і захапленне з'яўляюцца ў яе на твары. Айцец віншуе жанчыну са святам і складае пажаданні...

Рухаемся далей. Па дарозе з роварам ідзе парафіянка Леангіна Баранаева. І ў яе на твары здзіўленне ператвараецца ў радасць і захапленне. Даведаўшыся, што мы з рэдакцыі газеты, яна дзеліцца з намі сваімі перажываннямі: "У нас ніколі не было такога святара, як айцец Чэслаў. Вядома, усе святары цудоўныя і мы іх шануем, але гэты чалавек столькі зрабіў для нас і для Росіцы! Мы яму бязмежна ўдзячныя!"

## Свята буслоў у Росіцы

Перад намі яшчэ некалькі хат, дзе жывуць верніцы Росіцкай парафіі, якіх мы наведваем з пробашчам айцом Чэславам. Па дарозе ён распавядае пра сваю новую мару.

"Хачу арганізаваць свята буслоў. Гэтая птушка – сімвал Беларусі і сімвал сям'і. Хочацца падкрэсліць гэтым святам неабходнасць абароны нашай Бацькаўшчыны ад усялякага зла. І, перш-наперш, лічу, што неабходна нам абараняць сям'ю. Калі ў беларусаў будуць святыя і добрыя сем'і, ніякая бяда нам не страшная. І, канешне, мяне як аматара прыроды хвалюе экалагічны стан нашай зямлі. Папа Францішак заклікае ў сваёй энцыкліцы "Laudato si" бараніць прыроду, бо яна – Божы дар. Таму вось такім птушыным святам, спадзяюся, нам удасца яшчэ раз нагадаць пра сур'ёзныя выклікі нашага часу і заахвоціць людзей змагацца з імі".

– Ці памянялася нешта ў росіцкіх жыхароў, калі яны пабачылі столькі прыгажосці ля касцёла? – пытаюся.

– Адобры прыклад дзейнічае, – кажа айцец Чэслаў. – Калі я толькі пачынаў капаць катлаваны пад сажалкі, садзіць дрэвы і кветкі, многія мяне не разумелі. А колькі было смецця там! І пакеты, і бутэлькі пластыкавыя… А сёння гэтага няма. Вяскоўцы пабачылі, што можна зрабіць так, каб было чыста і прыгожа. Ніхто не выкідае ў нас смецце за плот, як было раней.

– Вяртаючыся да тэмы буслоў, іх жа не прымусіш прыляцець на свята. А якое ж без птушак птушынае свята?

– У нас усё ўжо прадумана. Гатовыя тры буслянкі. Падзялюся з вамі сваім архітэктурным праектам. Трэба, каб слуп або дрэва былі не менш за шэсць метраў вышыні. Наверх кладзецца барана і закідваецца галінкамі дрэў. І ўсё гэтае трэба акрапіць вапнай. Буслы думаюць, што гэта памёт, і што буслянка ўжо абжытая, таму ахвотней прылятаюць на яе.

– У кветках Вы, несумненна, добра разбіраецеся. Але бачу, што і ў птушках таксама ведаеце толк.

– З буслямі я звязаны і эмацыйна. Аднойчы з гнязда выпала птушаня. Маленечкае такое. Мне прынесла парафіянка. Я яго выхадзіў, лячыў, карміў. Назваў Клякам ад слова "клёкат".

З айцом Чэславам можна гутарыць не адну гадзіну. Калі ўжо ўсе фота- і відэаматэрыялы зробленыя, мы яшчэ доўга сядзім і слухаем святара. Многае пачутае застанецца за кадрам і па-за старонкамі гэтага тэксту. Але калі хтосьці з вас, дарагія чытачы, хоча пачуць айца Чэслава і пабачыць Росіцу, у вас ёсць цудоўная магчымасць зрабіць гэта, прыехаўшы на Буслінае свята 30 красавіка. Пагутарце са сваімі душпастырамі, прапануйце, паспрабуйце. Росіца вартая таго, каб туды прыехаць!



**Віншуем! Пахвалёны Езус Хрыстус!**

*1 красавіка свой Дзень нараджэння адзначае наш шаноўны* ***ксёндз-пробашч Чэслаў Курэчка****. А ў студзені гэтага года ён быў узнагароджаны прэміяй "За духоўнае адраджэнне". Мы вельмі гэтым ганарымся.*

*Дасылаем Вам, ксёндз Чэслаў, пяшчотныя словы віншавання, вялікай павагі, удзячнасці, радасці і гонару. Мы ўдзячныя Богу, што Вы ў нас ёсць!*

*Молімся за Вас, ойча, і просім міласэрнага Бога, каб даў Вам сілы і патрэбную энергію, шчодра адарыў блаславеннем, здароўем, каб дапамагаў пераадольваць усе цяжкасці і перашкоды, якія сустракаюцца на Вашым святарскім шляху. Жадаем Вам і надалей з даверам крочыць па шляху Хрыстовага святарства і дарыць людзям радасць, цяпло, любоў і прыгажосць. Няхай Ваш нялёгкі, цярністы, складаны, але такі пачэсны шлях служэння Богу і людзям будзе доўгім і шчодрым на Божую ласку, любоў і міласэрнасць.*

*Няхай Вас, сейбіта зерня Божай праўды, узнагародзіць Той, Хто жыве ў небе!*

***Вернікі парафіі святой Марыі Магдалены з Асвеі (Верхнядзвінскі р-н)***

Зміцер Лупач

# Пахвалёнка

Мар'ян накінуў ватоўку, глянуў на насценны гадзіннік, які паказваў дзесяць хвілін на дванаццатую, і вырашыў, што пара ісці. На дванаццатую гадзіну быў прызначаны агульнавясковы сход, праводзіць якія новая ўлада любіла даволі часта.

Ішоў ужо шосты год пасля вайны. Але спакойнага жыцця ўсё яшчэ не было. Спачатку новая ўлада душыла сялян падаткамі, а пасля стала арганізоўваць калгасы. Мар'ян у вёсцы быў, бадай, самы граматны: ён паспеў скончыць тры класы рускай школы яшчэ пры Мікалаю, чытаць папольску навучыўся самастойна. Шмат чытаў, таму здагадваўся, што гэтая ўлада ўсталявалася тут надоўга. Таму ён і не супраціўляўся, калі год назад новая ўлада добраахвотна-прымусова стала заганяць у калгас.

Прыходзіць заранне на такія сходы ён не любіў: мужчыны амаль бесперапынна курылі, а ён меў хворыя лёгкія, таму ніколі не курыў і не мог доўга знаходзіцца ў накураным памяшканні.

І сапраўды, калі ён толькі адчыніў дзверы, тытунёвы дым сустрэў яго ўжо ў сянях. У самой жа хаце было накурана так, што святло польскай лямпы-сямёркі ледзь прабівала густыя воблакі дыму. Пару чалавек сядзелі з люлькамі, сярод якіх і яго швагра Паўлюсь, астатнія зэблілі самакруткі. За сталом сядзелі тры чалавекі з раёна. Начальства трымала гонар, заціснуўшы ў пальцах папяросы. Жанчыны сядзелі далей ад стала, бліжэй да печы. З печы на дарослых пазірала трое дзяцей гаспадароў. Дзевяцігадовая дзяўчынка з сямігадовым хлопчыкам забаўлялі сваю трохгадовую сястрычку, адначасова любуючыся зверху на воблакі тытунёвага дыму.

Дым закручваўся кольцамі, як поўсць у іх барана, падымаўся ўгору, малюючы ў дзіцячым уяўленні розныя дзівосныя фігуры. Ён амаль закрываў цётку на плакаце, які дзядзькі з раёна прывезлі і павесілі на сцяне. На ім шчаслівая кабета, трымаючы каня і карову, заклікала ўступаць у калгас.

Мар'ян сеў збоку, непадалёк ад дзвярэй і побач са сваім суседам Пётрам, які, дарэчы, таксама не курыў. "Чаго зноў гэтыя прыехалі, няма ім супакою?" – напаўголаса спытаў ён у суседа. "А халера іх ведае, мусіць, будуць заганяць у гэты калхоз тых, хто яшчэ не ўступіў", – гэтак жа ціха адказаў той.

Было яшчэ ў вёсцы некалькі чалавек, якія ўпарта не ўступалі ў калгас. Паміж сабой яны спадзяваліся, што гэтая ўлада доўга не ўтрымаецца, хутка будзе зноў вайна, і другія саветы знікнуць гэтак жа, як і першыя. "Як так можна, каб зямля была нічыя, каб добраахвотна аддаць тое, што з такой цяжкасцю ўдалося зарабіць? Ну не можа такая ўлада доўга ўтрымацца, – разважалі яны, – і цар быў, і палякі, і немцы, і тыя ж саветы першыя, і ніхто не адбіраў зямлю. Так, падаткамі абдзіралі, але ж працаваць было можна".

Сярод гэтых людзей быў і Ігналька. Ён не толькі не ўступаў у калгас, ён нават насценны гадзіннік у хаце за дзесяць гадоў так і не перавёў на новы час: той ішоў у яго па польскім часе. І на сходы такія стараўся не хадзіць, звычайна адпраўляў туды каго-небудзь са сваіх дачок. Характар ён меў вельмі круты, жонка і дочкі слова ўпоперак яму сказаць баяліся. Вось і зараз ён сказаў сваёй чатырнаццацігадовай дачцэ Марылі:

– Ідзі на гэта сабранне, паслухай, што там будуць казаць. І скажы ім, я ўступаць у іхны калхоз не збіраюся. Адберуць зямлю – халера іх, хай адбіраюць, а сам добраахвотна да іх не пайду. Усё, ідзі!

***

– Ну, что, товарищи, будем начинать, – сказаў галоўны прадстаўнік раёна Воранаў, – кто опаздает, пусть присоединяется.

І пачаў, як звычайна, з міжнароднага становішча, пасля перайшоўшы на справы калгасныя.

– А у нас есть ещё несознательные граждане, которые не торопятся вступать в колхоз. К ним советская власть будет применять самые жёсткие меры…

У гэты час скрыпнулі дзверы і ў хату ўвайшла Марыля.

– Нех бэндзе пахвалёны Езус Хрыстус! – прывіталася яна.

Раённы прадстаўнік замоўк на паўслове, некалькі чалавек захіхікала, большасць жа маўчала. Мар'яну гэта маўчанне падалося вельмі доўгім, хаця на самай справе цягнулася яно некалькі імгненняў.

– Навекі векув. Амэн! – прагучаў голас яго швагры Паўлюся.

– Садись, девочка, Бога нет. А почему взрослые не пришли? – звярнуўся да Марылі Воранаў. – Ладно, на этот раз прощаем, но в следующий раз пускай отец сам приходит.

Мар'ян не памятаў, што далей гаварылася на тым сходзе і чым ён закончыўся. Па дарозе дадому яго галаве ўвесь час не давала пакою думка: ну, чаму ён першы не адказаў на пахвалёнку, ён, які ў вёсцы лічыўся самым набожным чалавекам. А вось жа швагра, якога ён крыху недалюбліваў за яго вясёлы характар, якога лічыў крыху ветраным, не пабаяўся ж, а адказаў. І нічога з ім за гэта не сталася, дый і не будзе, нічога не было б і яму, але ж вось не сказаў жа…

Праўда, тут жа ў галаву лезла іншая думка, якая імкнулася яго апраўдаць: ну, не паспеў ён, вядома ж, адказаў бы. Але гэты Паўлюсь улез першы. Ды ўсё адно на душы было прыкра.

Прыйшоўшы дадому, ён адкрыў Святое Пісьмо, каб пачытаць і супакоіцца. Так ён не раз рабіў за сваё жыццё. І адкрылася яно якраз на тым месцы, дзе было напісана: "І згадаў Пётр словы, сказаныя яму Езусам: перш чым заспявае певень, тройчы адрачэшся ад Мяне. І, выйшаўшы вонкі, плакаў горка".

І сам Мар'ян, прачытаўшы гэтыя радкі, ледзь не заплакаў.



**«Адрачэнне апостала Пятра». 1873 г.** *Мастак - Карл Генрых Блох*

## Хвілінка творчасці

Шчыра вітаю рэдакцыю газеты "Каталіцкі Веснік", асабіста – галоўнага рэдактара, шаноўнага кс. Віктара Місевіча.

З выданнем мяне пазнаёмілі сябры па творчасці з Глыбокага (мой родны горад). Газета мне спадабалася, падпісалася на яе.

У маёй творчасці сярод разнастайных тэмаў прысутнічае і тая, якую крытыкі называюць "богашукальніцтвам". Давялося прачытаць, што знакаміты беларускі пісьменнік Іван Шамякін, які спачатку быў атэістам (у гэтым ён прызнаваўся сам), напісаў у аповесці "Слаўся, Марыя": "Пакручастыя шляхі чалавечага жыцця. Чалавек па іх не сам ідзе, Бог яго вядзе". Звярнула ўвагу, што творчым асобам газета дае месца, каб друкаваць свае творы. Дасылаю два вершы, спадзяюся, што з Божай ласкі, яны знойдуць чытачоў.

***

Дыяментам сняжынкі-ільдзінкі
У паўзмроку блішчаць у акне.
Мне здаецца, на лёгкім успаміне
Анёл белы ляціць да мяне.

Побач стань, абаронца, ахоўнік,
Пры табе папрашу Пана Бога,
Каб даваў хлеб штодзённы, здароўе
І бяду не пускаў да парога.

Распалі, мой анёле, агеньчык
Міласэрнасці, веры, дабра.
У Пана Бога прашу прабачэння,
Што так мала ў жыцці аддала.

Узмахнуў анёл белым крыллем,
Зорка ранішняя ўзышла.
Цудадзейная Боская сіла!
Я з анёлам размову вяла.

*Людміла Ардынская, в. Радзюкі (Шаркаўшчынскі раён)*

## Выражаем благодарность!

**От имени Шумилинской районной организации общественного объединения «Белорусское товарищество инвалидов по зрению» выражаю глубокую благодарность сёстрам милосердия католического костёла Шумилинского прихода: с. Бернодетте, с. Юлии, с. Дороте.**

Мы уже не первый год сотрудничаем. В нашей организации – 46 инвалидов по зрению, и в трудные моменты мы обращаемся за помощью. Сёстры всегда находят время и возможность помочь. Всегда с готовностью протянут руку помощи. В любую погоду, рано утром и поздно вечером трудятся, как пчёлки, бескорыстно, безвозмездно. Это неутомимые, обязательные, надёжные люди, которым можно доверить своё сердце, душу, всего себя. С ними приятно общаться, они всегда найдут, как утешить человека, попавшего в трудную жизненную ситуацию. На вид – хрупкие, но сильные духом, берутся за тяжкий труд, обслуживают лежачих тяжелобольных. С этой работой иногда родственники этих людей справиться не могут. Эти сёстры – как ангелы с небес, спустившиеся к нам.



**Слева направо: с. Юлия, с. Дорота, с. Бернодетта**

**Низкий поклон вам, сёстры, крепкого-крепкого здоровья, неиссякаемого источника вдохновения и энергии. С наступающим Великим праздником Пасхи!**

*С уважением и большой благодарностью, правление Шумилинской районной организации ОО «БелТИЗ»*

# Жизнь без стресса. Как её достичь?



**Хотим мы этого или нет, но постоянная спешка, нервы, эмоции и, безусловно, стремительный стиль жизни современного человека неизбежно приводят к такому явлению, как стресс. Замечу, что слово «стресс» сегодня как никогда находится на пике популярности. Но, несмотря на своеобразное народное «признание», многие из нас не знают о стрессе практически ничего и, исходя из этого, иногда предпринимают не совсем удачные попытки борьбы с ним.**

**Марина Ткач**, *социальный педагог, психолог*

Поэтому сегодня мы попытаемся узнать «врага» в лицо и попробуем научиться грамотно говорить стрессу «нет».

Впервые термин «стресс» ввел Уолтер Кэннон в своей работе «Бороться или бежать», в которой описал реакцию организма человека при стрессовых ситуациях. Но широкую известность данное явление получило благодаря канадскому физиологу Гансу Селье в 1936 году. Однако автор длительное время избегал употребления термина «стресс», поскольку тот использовался во многом для обозначения «нервно-психического» напряжения. И только в 1946 году Селье начал употреблять понятие «стресс» для обозначения общего адаптационного напряжения, которое описал следующим образом: «особое состояние организма человека и млекопитающих, возникающее в ответ на сильный внешний раздражитель». В одной из своих работ Г. Селье отмечал, что *«стресс – это не то, что с нами случилось, а то, как мы это воспринимаем»*.

Сейчас понятие **«стресс»** трактуется как *состояние человека, характеризующееся неспецифическими реакциями (на физическом, психологическом и поведенческом уровнях) в ответ на экстремальные раздражители.* Другими словами, **стресс** – это состояние эмоционального и физического напряжения, возникающее в определённых ситуациях, которые характеризуются как трудные и неподвластные нам.

Сегодня доказано, что само по себе состояние стресса не болезнь. Если бы не было стресса, жизнь превратилась бы в абсолютное равновесие, замерла бы. Именно стресс поддерживает активность систем организма на уровне нормы. Если угодно, уровень стресса – это "температура жизни". Не надо повышать её до максимальных величин, но нельзя и снижать до теплового равновесия с окружающей средой, в которой жизнь уже невозможна.

В психологии, впрочем, как и в медицине и физиологии, у стресса выделяют положительную (**эустресс**) и отрицательную (**дистресс**) формы. **Эустресс** – «стресс, вызванный положительными эмоциями» и «несильный стресс, мобилизующий организм». **Дистресс** – негативный тип стресса, с которым организм человека не в силах справиться. Он разрушает моральное здоровье личности и даже может привести к тяжёлым психическим заболеваниям.

Если продолжать детальное рассмотрение стресса дальше, то стоит сказать, что он имеет определённые **стадии или фазы протекания:**

**1. Стадия тревоги** состоит в мобилизации адаптационных возможностей организма, при которой сопротивляемость стрессу падает ниже нормы. Данная фаза обозначается понятием *продуктивного стресса* или **эустресса**. Возрастает объём восприятия и внимания, повышается гибкость и лабильность оперативной памяти. В состояние «повышенной готовности» переводится информация прошлого опыта; увеличивается оригинальность, продуктивность и креативность мышления (феномен *гиперактивации мышления*).

**2. Стадия сопротивления** возникает, если действие совместимо с возможностями адаптации. При этом признаки тревоги практически исчезают, а уровень сопротивляемости выше обычного.

**3. Стадия истощения.** Если стрессор воздействует длительно и интенсивно, адаптационные силы организма начинают истощаться, это ведёт к возникновению неврозов, психических расстройств, появлению хронических заболеваний. Протекание этих фаз будет зависеть в первую очередь от ваших индивидуальных особенностей.

Также на наличие или отсутствие стресса в нашей жизни влияет такое качество, как стрессоустойчивость. **Стрессоустойчивость личности** – способность сохранять высокие показатели психического функционирования и деятельности при возрастающих стрессовых нагрузках. Важной стороной стрессоустойчивости является способность не только сохранять, но и повышать показатели эффективности, продуктивности деятельности при стрессовом усложнении условий.

Итак, все люди в мире по степени стрессоустойчивости делятся на **четыре группы**:

**1. Стрессоустойчивые** – легко принимают любые перемены, так как гибкие и пластичные в плане приспособления к каким-либо стрессовым факторам. Поэтому они к переменам всегда готовы, а кризисные ситуации преодолевают достаточно легко.

**2. Стрессонеустойчивые** – малейшее развитие событий не по их сценарию приводит в состояние сильного стресса. Изменения застают их врасплох, адаптация к непривычной обстановке для этих людей неимоверно тяжела. Менять свои взгляды, установки и поведение очень сложно.

**3. Стрессотренируемые** – они к изменениям как будто готовы, но к окружающей обстановке будут адаптироваться постепенно. Они будут меняться, но в медленном темпе. Резкие движения не для них, иначе они впадут в депрессию. При повторении стрессовых ситуаций с каждым разом будут реагировать на них все более спокойно.

**4. Стрессотормознутые** – под воздействием внешней среды меняться не станут, так как стоят на твёрдых позициях и имеют собственное мировоззрение. В исключительных случаях пойдут на то, чтобы однократно изменить психотравмирующую сферу жизни. Могут теряться, когда стрессы сопровождают их постоянно.

Ни в коем случае не надо считать стрессоустойчивость врождённым качеством, её можно и нужно натренировать с помощью психологических техник или специальных тренингов.

Вопреки тому факту, что стресс для нас – это что-то страшное и неприятное, подчеркну, что не стоит из него делать нечто коварное и беспощадное, способное погубить нашу жизнь. Любой стресс – это нормальная, естественная реакция организма на раздражение извне. И если вы воспринимаете это раздражение, значит, ваш организм жив. Любой внешний раздражитель (особенно неприятный) стимулирует и пробуждает внутренний потенциал, заложенный в нас природой, но по определённым причинам уснувший и не востребованный. Поэтому чрезмерно пугаться его не стоит, и если уж так случилось, что избежать стресса не удалось, нам остается с ним бороться.

**Итак, как бороться со стрессом?**

В наше время у людей редко появляется время и возможность расслабиться для того, чтобы ослабить влияние стрессовых ситуаций. Очень часто мы путаем расслабление с просиживанием вечерами перед монитором компьютера, обильным приемом пищи (особенно это касается девушек и женщин, когда мы таким способом пытаемся «заесть» стресс), употреблением алкоголя и т.д. Думаю, каждый из вас понимает и знает, что все это проблемы не решает.

Но есть и другие, более позитивные и действенные способы, позволяющие справиться со стрессом. Они включают в себя как физические нагрузки, здоровый сон и правильное питание, насыщенное витаминами и микроэлементами, поддерживающими нормальное функционирование нервной системы, так и специфические виды преодоления стресса. И вот некоторые из них:

**1. Переключение на занятие любимым делом:** чтение, просмотр фильма, посещение спектакля или выставки. Вы скажите: «И так проблем полно, а я вместо их обдумывания буду развлекаться». Или еще вариант: «Я всё равно не смогу отвлечься». В этом и есть большая ошибка. Чем увлекательнее дело, тем быстрее создается конкурирующая замена. Расстроенному или раздраженному человеку спектакль или книга лёгкого жанра в духе комедии, детектива послужат целебным средством, отвлекающим от бесконечного обдумывания дальнейших действий.

**2. Общение с родными и близкими.** Метод подробно описан в психологии и психотерапии. «Выговорился, и легче стало» – эта фраза набила оскомину, но не потеряла своей актуальности. Дело в том, что стресс мешает увидеть ситуацию «со стороны». В неё привносится много личностного, эмоций, переживаний. Близкие и друзья помогут найти скрытые резервы преодоления стресса, поскольку случившееся не затрагивает их непосредственно и их мышление свободно от эмоциональных реакций. Старшее поколение привнесёт в разрешение ситуации собственный жизненный опыт, ровесники – гибкость и креативность, дети – жизнерадостность и уверенность в том, что решать проблемы стоит ради них.

**3. Применение логических приёмов успокоения** (снижение значимости конфликтной ситуации). Данные методы борьбы со стрессом требуют хорошей работы сознания. Их суть:

- объективный анализ своего поведения и принятие решения даже не в свою пользу. «Завтра же извинюсь за своё поведение», – думает человек и испытывает облегчение;
- удержание под контролем субъективных реакций организма. «Хватит себя изводить: что произошло, то и произошло. Мое здоровье, моя семья мне дороже всего на свете»;
- снижение значимости произошедшего. «Да, я вынужден сидеть на этом скучном совещании, зато я смогу заполнить календарь на следующую неделю и обдумать планы на выходные»;
- найти оправдание себе (не очень благородный метод) или другим (вот это уже лучше). «Не я начал эту ссору, я только защищался» или «Мой старший брат зря на меня обиделся, но ведь он любит меня и переживает, если у меня жизнь кувырком»;
- сравнение собственных неприятностей с проблемами других людей. Эти методы используются в психологии как защита от стресса или борьба со стрессом.

**4. Овладение аутотренингом (АТ).** Аутотренинг помогает быстро справиться со стрессом, снять излишнюю напряженность, волнение; уснуть в любое время и проснуться отдохнувшим как после ночного крепкого сна, снимает такие проявления стресса, как головные боли, неприятные ощущения со стороны внутренних органов. Необходимо предостеречь тех, кто надеется овладеть самовнушением с первого раза. Курс АТ рассчитан на 2-4 месяца занятий, зато после его успешного завершения у стресса нет никаких шансов справиться с вами.

**5. Дыхательная гимнастика.** Этот способ борьбы со стрессом пришел одновременно из психологии и физкультуры. Сосредоточение на ритме, отслеживание числа вдохов-выдохов отвлекает внимание. Глубокий вход насыщает мозг кислородом, ускоряется вывод из организма гормонов стресса. От стресса рекомендуется дышать таким образом: на счет раз-два – глубокий вдох, три-четыре – спокойный выдох, пять-шесть – пауза. Повторять 6-8 раз.

И, наконец, **не забывайте улыбаться!** На любые трудности и невзгоды в своей жизни смотрите с иронией и улыбкой! Хорошее настроение поможет избавиться от дурных мыслей, а окружающие будут видеть, что вам всё по плечу!

Стоит согласиться с тем, что у стресса много лиц и коварный характер. Он опасен не столько протеканием, сколько последствиями для человека и его родных и близких. Но если есть проблема – Вы обязательно найдёте её решение, если есть стресс – есть методы борьбы с ним. Надо только найти свой.

# Каляндар на красавік



**3 красавіка – нядзеля Божай Міласэрнасці.**
Гэтае свята для паўсюднага Касцёла было ўстаноўлена Папам Янам Паўлам II у лістападзе 2000 г. Адзначаецца яно ў другую Велікодную нядзелю.

**4 красавіка – урачыстасць Звеставання Пана.**
Гэта дзень, у які Арханёл Габрыэль абвясціў дзяўчыне Марыі, што яна стане Маці Бога і што пад яе сэрцам з'явіўся Хрыстус. Ва Усходніх Цэрквах гэтае свята адзначалі ўжо ў V стагоддзі, а на Захадзе – з часоў пантыфікату Грыгорыя Вялікага (VII ст.).

У энцыкліцы "Evangelium vitae", абвешчанай 25 сакавіка 1995 г., Ян Павел II прапанаваў штогод у гэта свята адзначаць Дзень жыцця, каб звярнуць увагу грамадскасці на яго каштоўнасць. Для таго, каб кожная жанчына і ўсе людзі, нягледзячы ні на якія складанасці і праблемы, па прыкладзе Марыі заўсёды казалі "так" новаму жыццю з моманту зачацця.

У апошнія гады ў Беларусі пашыраецца добрая традыцыя духоўнага ўсынаўлення. Ва ўрачыстасць Звеставання Пана (а таксама і ў іншыя марыйныя святы) многія вернікі бяруць на сябе абавязак на працягу дзевяці месяцаў маліцца за дзіця, якому пагражае небяспека аборту.

**25 красавіка – успамін святога Марка, евангеліста.**
Марк быў вучнем і перакладчыкам святога апостала Пятра, які называў яго "сваім сынам". Ён з'яўляецца аўтарам другога Евангелля, найкарацейшага з чатырох. Паводле Новага Запавету, Марк быў сынам Марыі з Ерусаліма, у доме якой рэгулярна збіраліся першыя хрысціяне. Лічыцца, што ён быў першым біскупам Александрыі, дзе дзякуючы яго дзейнасці станавілася ўсё больш і больш хрысціянаў. Раздражнёныя гэтым паганцы схапілі Марка, калі ён служыў святую Імшу, і цягнулі яго на вяроўцы па вуліцах горада. Не перажыўшы такога здзеку, на наступны дзень Марк памёр. Яго рэліквіі знаходзяцца ў катэдры Сан-Марка ў Венецыі, апекуном якой ён з'яўляецца. Сімвал евангеліста – леў.

Святы Марк лічыцца апекуном пісьменнікаў і мастакоў, праз яго заступніцтва сяляне просяць добрага надвор'я і спрыяльных дажджоў.

**29 красавіка – успамін святой Кацярыны Сіенскай – панны і доктара Касцёла, апякункі Еўропы.**
Кацярына Бенінказа нарадзілася ў 1347 г. і была дачкой фарбавальніка з Сіены (Цэнтральная Італія). Ва ўзросце 12 гадоў Кацярына, згодна з жаданнем бацькоў, павінна была выйсці замуж, аднак глыбокая рэлігійнасць і багатае ўнутранае жыццё схілілі яе да таго, каб уступіць у трэці закон дамініканаў. Паводле ўласных словаў святой, яна перажыла "духоўныя заручыны" з Хрыстом. Сваім гераічным хрысціянскім жыццём, напоўненым самаахвярнай любоўю да бліжніх у імя Хрыста, яна прыцягнула да сябе шмат прыхільнікаў з усіх сацыяльных пластоў. Памерла ў Рыме ва ўзросце 33 гадоў, у апошнія гады жывучыся выключна Эўхарыстыяй.

Святая Кацярына Сіенская з'яўляецца апякункай Італіі і Еўропы; яе заступніцтва просяць хворыя на чуму і тыя, хто пакутуе ад галаўных боляў.

**У красавіку рэдакцыя "Каталіцкага Весніка" адзначае дзень нараджэння газеты. 5 красавіка 2011 года Міністэрства інфармацыі зарэгістравала газету Віцебскай дыяцэзіі "Каталіцкі Веснік". 14 красавіка 2011 года быў падпісаны ў друк першы нумар выдання. Сёлета газеце "Каталіцкі Веснік" спаўняецца 5 гадоў.**

## На красавік прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскіх пасвячэнняў у наступных святароў і біскупаў:

**1 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **ксёндз-пралат Францішак Кісель** (Полацк), **кс. Чэслаў Курэчка** (Росіца);

**3 красавіка** – імяніны адзначаюць **кс. Рычард Якубец** (в. Мікелеўшчына), **кс. Рычард-Пётр Перчак** (в. Белагруда), **кс. Рычард Пежхала MSF** (Дзяржынск);

**4 красавіка** – дзень нараджэння адзначае дапаможны **біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі**;

**5 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Люцыян Радомскі** (в. Лунно);

**7 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Генрык Яблонскі** (в. Забалаць);

**8 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Генадзь Акалатовіч** (Валожын), **кс. Францішак Галдыс TChr** (в. Суботнікі); гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Мікалай Ліпскі** (Лучай);

**9 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Шэмет** (в. Адамавічы); імяніны адзначаюць **кс. Дзмітрый Сядлецкі** (в. Уселюб), **кс. Дзмітрый Занямонскі OMI** (Мінск), **кс. Дзмітрый Іваноў** (Мінск), **кс. Дзмітрый Пухальскі** (Мінск);

**10 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Павел Барысевіч** (Ашмяны), **кс. Тадэвуш Крыштопік** (Квасоўка); гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Аляксандр Півавар** (Бешанковічы);

**11 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Валерый Орсік** (Орша), **кс. Павел Астукевіч** (в. Індура);

**13 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** (Друя);

**15 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юрый Канапелька** (в. Мсцібава);

**16 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Тадэвуш Вышынскі СМ** (Гродна);

**17 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Ежы Вільк SCJ** (Паставы), **кс. Генадзь Рамашка SAC** (в. Германішкі), **кс. Віталій Сідорка** (Гродна); **імяніны адзначае кс. Генадзь Рамашка SAC** (Германішкі);

**18 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Валянцін Хведук** (в. Беліца);

**19 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ежы Саковіч OSPPE** (г.п. Карэлічы); імяніны адзначае **кс. Валерый Марціноўскі** (Люблін); гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Чэслаў Халгас MS** (Дрысвяты);

**22 красавіка** – дзень нараджэння адзначае **кс. Юры Бараўнёў** (Порплішча);

**23 красавіка** – імяніны адзначаюць **біскуп Юрый Касабуцкі**, **кс. Юрый Барок** (Расоны), **кс. Юрый Бараўнёў** (Порплішча), **кс. Ежы Вільк SCJ** (Паставы), **кс. Юрый Жаўняровіч** (Віцебск), **а. Юрый Катовіч OFMCap** (Докшыцы), **кс. Юры Быкаў**, **а. Юрый Краўчанка OFMCap** (Маладзечна), **кс. Юрый Санько** (Мінск), **кс. Юрый Кулай OCD**, **кс. Ежы Ноцунь SCJ** (Барадзенічы), **бр. Войцех Врублеўскі OFMCap** (Докшыцы), **кс. Войцех Вальчына MSF** (Плешчаніцы), **кс. Ежы Беганьскі** (Ліда), **кс. Юрый Церабей** (в. Крэва), **кс. Юрый Федук** (Ражанка, Шчучынскі р-н), **кс. Ежы Грыцко ISCh** (в. Першамайск), **кс. Юрый Ігнатовіч** (в. Правыя Масты), **кс. Ежы Ясевіч** (Гродна), **кс. Юрый Ёдзік** (Цудзэнішкі), **кс. Юрый Канапелька** (в. Мсцібава), **кс. Юрый Кузьміч** (в. Новы Двор), **кс. Ежы Левінскі** (Гродна), **кс. Юрый Марціновіч**, **кс. Ежы Павайба** (г.п. Сапоцкін), **кс. Ежы Саковіч OSPPE** (г.п. Карэлічы), **кс. Ежы Свіслоцкі**, **кс. Юрый Жэгарын** (Навагрудак), **кс. Ежы Катоўскі OMI.**

**24 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **а. Ян-Валерыян Херхік OFMConv** (Удзела), **бр. Войцех Врублеўскі OFMCap** (Докшыцы); гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Леанард Станкоўскі** (в. Солы);

**25 красавіка** – імяніны адзначаюць **кс. Марат Казлоўскі** (Мосар), **а. Марэк Пасют OFMCap** (Докшыцы), **кс. Марэк Яняк MSF** (в. Новы Свержань); гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Альгімантас Паўлікас** (в. Адэльск);

**26 красавіка** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Генадзь Добрук**, **кс. Віктар Захарэўскі** (в. Раготна);

**28 красавіка** – імяніны адзначае **а. Віталь Юркевіч OFMCap**;

**29 красавіка** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Аляксей Раманчук** (Барысаў), **кс. Андрэй Яркавец** (Бабруйск);

**30 красавіка** – імяніны адзначае **кс. Мар'ян Шэршань** (в. Налібокі).

Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.

*Падрыхтавала*
*Марына Ткач*

## Святая Кацярына Сіенская

**У XIV ст., калі жыла будучая святая, горад Сіена па сваіх памерах быў больш за Парыж і Лондан.**

**а. Андрэй Сідаровіч MIC**



Кацярына нарадзілася ў заможнай сям'і фарбавальшчыка тканіны. Дзяўчынка-прыгажуня, па задумцы бацькоў, павінна была выйсці замуж за прадстаўніка адной з шанаваных сем'яў Сіены. Бацькоўскія планы пакрыжавала адно здарэнне, якое карэнным чынам змяніла Кацярыну і яе жыццёвы выбар. Гэта была першая містычная візія Езуса, якую атрымала Кацярына. Езус, Які сядзеў на троне ў таварыстве апосталаў Пятра, Паўла і Яна, паглядзеў на яе з такой любоўю, што сіла гэтага позірку не пакідала ўсё жыццё.

Кацярына шмат молiцца і прагне быць законніцай. Каб не выходзіць замуж, на знак пра здзейснены грэх, яна голіць сабе галаву. Абураныя бацькі караюць дзяўчыну цяжкімі фізічнымі працамі і не спыняюцца ў планах з замужжам. Толькі дзіўная хвароба скуры з высокай тэмпературай у пары змушаюць бацькоў даць абяцанне, што за аздараўленне адрадуць дачку ў манастыр.

У сясцёр Кацярына аддаецца малітвам і пастам. Мае неаднаразовыя візіі Езуса і святых. Аднак Езус просіць і загадвае, каб яна прысвяціла сябе службе людзям. Так пачынаецца этап незвычайнай актыўнасці Кацярыны. Яна з ахвярнасцю служыць хворым, бедным і тым, хто ў цярпенні. Ідзе да людзей, якія, хварэючы на праказу і рак, страцілі надзею і чалавечую годнасць. Кацярыну не спыняюць ні смурод гнайнікоў, ні вульгарнасць яе пацыентаў. Слава пра маладую сіенку і сілу яе аздараўляльнай любові хутка распаўсюдзілася па свеце. Адважную Кацярыну не спыніла нават эпідэмія чумы: людзі, якіх са страху кінулі самыя блізкія, паміраюць у яе на руках.

У свеце св. Кацярына вядомая і тым, што пераканала Папу Грыгорыя XI вярнуцца з Авіньёна ў Рым. І свецкія, і духоўныя ўлады не раз запрашалі Кацярыну быць пасярэдніцай у спрэчках, верачы, што яе святасць і блізкасць да Бога дапамогуць пазбегнуць вайны.

Святая Кацярына – гэта прыклад, што можа зрабіць чалавек у супрацоўніцтве з Богам. Плады гэтай супрацы не залежаць ад узросту (Кацярына памерла, маючы 33 гады), полу (маладая дзяўчына, якая стала маральным, духоўным і палітычным аўтарытэтам) і гістарычнай эпохі. Гісторыя святой Кацярыны – гэта адказ на феміністычныя заклікі сучаснага свету, прыклад жаночай рэалізацыі ў прынцыпова патрыярхальным Сярэднявеччы.

Касцёл надаў святой Кацярыне тытул Доктара Касцёла, прызнаючы яе жыццё і навучанне важным і заўсёды актуальным.

# Беларуская манахіня на місіі ў Аўстраліі




**Беларуская сястра Паўла Волчак CSFN з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта знаходзіцца ў аўстралійскім Сіднэі на місійнай працы. У інтэрв'ю манахіня распавядае "Каталіцкаму Весніку" пра сваё жыццё на Зялёным кантыненце.**

**– Сястра Паўла, колькі часу Вы знаходзіцеся ў Аўстраліі?**

– Я жыву і працую ў Аўстраліі ўжо тры гады.

**– Якія ў Вас агульныя ўражанні?**

Вельмі цікавая краіна і па-свойму прыгожая. Тут усё наадварот. У Беларусі цяпер пачынаецца вясна, а тут – восень. Калі Вы кладзяцеся спаць, я ўжо ўстаю, бо калі ў вас ноч, у нас – дзень. У гэтай краіне экзатычная для беларусаў фаўна. Тут жывуць кенгуру, і некаторыя беларусы думаюць, што яны спакойна скачуць па вуліцах. Але гэта не так. Каля вёскі іх можна пабачыць, але не ў горадзе. Мне вельмі падабаюцца каалы, якіх можна нават пагладзіць.

**– А ці ведаюць пра Беларусь у Аўстраліі?**

– Аўстралія – шматканфесійная і шматнацыянальная. Калі чуюць акцэнт, у мяне часам часам пытаюцца: "А ты адкуль? У цябе іншы акцэнт". І далей ідзе пытанне: "А дзе гэта, Беларусь?" Некаторыя ведаюць нашых спартсменаў. І тады гучыць: "А-а, Вікторыя Азаранка!"

**– А як там з моўнай сітуацыяй?**

– Кожны стараецца зразумець адзін аднаго. Таму на англійскую мову з акцэнтам стараюцца не звяртаць увагі. Усе малітвы ў нашай парафіі праводзяць на англійскай мове, аднак у доме састарэлых – на польскай. Раз на год у парафіі арганізоўваюць National Day. Тады падчас святой Імшы чытанні адбываюцца на іншых мовах. Людзі прыходзяць у нацыянальных касцюмах, а пасля кожны частуе сваімі нацыянальнымі стравамі. Я таксама гатую беларускую нацыянальную ежу ў манастыры. У нашай парафіі іспанцы і в'етнамцы раз на тыдзень удзельнічаюць у Імшы на сваёй мове.

**– Раскажыце пра сваю штодзённую дзейнасць?**

– Я працую ў каталіцкай школе "Добрага Пастыра" у Плямптоме, у адным з мікрараёнаў Сіднэя. Школа каталіцкая, але вучацца тут дзеці розных канфесій. Яны разам моляцца, гуляюць, і канфесійная прыналежнасць ім не перашкаджае, што для сучаснага свету вельмі важна. Я з'яўляюся духоўным апекуном для дзяцей і іх бацькоў. Два дні працую ў доме састарэлых. Гэты дом быў створаны для польскіх эмігрантаў, але ў ім шмат людзей іншых нацыянальнасцей.

**– Як аўстралійцы сёлета перажываюць Юбілейны Год Міласэрнасці?**

– Юбілейны Год Міласэрнасці для кожнага каталіка вельмі важны, таму многія аўстралійскія вернікі практыкуюць святы час: а 15.00 моляцца Вяночкам да Божай Міласэрнасці. У кожнай парафіі святар арганізоўвае асаблівыя малітвы або малітоўныя групы, дзе разам разважаюць і моляцца. Шматлікія свецкія католікі едуць на нядзельныя рэкалекцыі ў манастыры, маючы сваіх духоўных кіраўнікоў. Такая практыка папулярная не толькі сёлета.

Таксама ў гэтым годзе аўстралійская моладзь збіраецца на Сусветныя дні моладзі ў Кракаў. Падобны выезд для іх асаблівы. Аднак не ўсе сабе могуць дазволіць, бо далёка і дорага. Але кожны стараецца будучым пілігрымам нечым дапамагчы. Гэта паломніцтва яны вельмі цэняць, бо Польшча – радзіма св. Яна Паўла ІІ і св. Фаўстыны.

**– Якія асаблівасці святкавання Вялікадня ў Аўстраліі?**

– Вялікдзень святкуецца падобна. Хаця для аўстралійцаў Вялікая Пятніца – на самай справе Вялікая. Гэта дзяржаўны выхадны дзень, усё зачынена. А 15-й гадзіне хрысціяне збіраюцца на Літургію. У Папяльцовую сераду галаву не пасыпаюць попелам. Святар попелам пазначае знакам крыжа ілбы вернікаў. І ўсе ходзяць увесь дзень з гэтым знакам.

**– А якія Вашыя пажаданні з нагоды велікодных святаў?**

– Хацела б павіншаваць усіх беларускіх вернікаў са святам Вялікадня і пажадаць моцнай веры ў Божую Міласэрнасць. А ўсе, хто знаходзіцца перад выбарам жыццёвага шляху, – не бойцеся адказаць Госпаду "так"! Ён моцна нас любіць і ахвяраваў жыццё за нас! Не бойцеся. Ідзіце за Яго голасам. Ён дасць сілы і неабходныя ласкі.

*Гутарыла Ірына Грэйць*




## Віншаванне
## ад Таварыства беларускай мовы

**Хвала Хрысту!**
**Паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік"!**

Віцебская абласная рада ТБМ дасылае найсардэчнейшыя віншаванні з нагоды пяцігоддзя Вашага выдання!

На першы погляд, пяць гадоў – не такі ўжо і вялікі тэрмін, асабліва для газеты. Але за гэты час Веснік, несумненна, заняў сваё пачэснае месца ў медыяпрасторы не толькі Віцебскай вобласці, але і краіны ў цэлым. У кожным нумары чытачы знаходзяць цікавыя і пазнавальныя матэрыялы, знаёмяцца з рэлігійным жыццём у розных кутках Віцебскай і іншых дыяцэзій. І ўсё гэта ў асноўным па-беларуску!

Асобна хацелася б адзначыць, што ў газеце ёсць і рубрыка, прысвечаная культуры роднага беларускага слова. Гэта надзвычай важна, бо дае магчымасць лепш зразумець асобныя спрэчныя аспекты марфалогіі, сінтаксісу ці лексікі. Мы ведаем, што і матэрыял згаданай рубрыкі заўсёды карыстаецца ў чытачоў вялікай папулярнасцю.

Віцебская абласная рада грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" жадае Вам новых творчых дасягненняў, новых цікавых матэрыялаў. З пяцігоддзем, дарагі "Каталіцкі Веснік"!




*Алена Сакалова – намеснік старшыні Віцебскай абласной рады ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"*

# Што думаюць чытачы пра сустрэчу Папы і Патрыярха?

**12 лютага 2016 года адбылася сустрэча Папы Рымскага Францішка і Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла.**

**Якіх вынікаў чакаюць вернікі ад сустрэчы Папы і Патрыярха, чытайце ў гэтым нумары "Каталіцкага Весніка".**

*Ірына Грэйць*



**Дзмітрый Шаршунс:**

– На мой погляд, гэта сустрэча ўносіць гістарычны ўклад у далейшае развіццё адносін паміж Царквой і Касцёлам, паколькі хрысціяне павінны трымацца разам. Ёсць вельмі шмат пытанняў, якія паасобку вырашыць надзвычай цяжка або зусім немагчыма. Я лічу, што гэта сустрэча паспрыяе таму, каб часцей мы маглі разам маліцца, а таксама разам дапамагаць таму, каму патрэбная дапамога. Цяпер, як ніколі, хрысціяне павінны быць разам і разам пераадольваць усе цяжкасці і ўвесь негатыў сучаснага свету. І таксама чакаю, што такіх вызначальных сустрэч будзе больш.



**Юлія Кісялевіч:**

– Я думаю, што гэта сустрэча адчыніць дзверы для збліжэння і даверу Праваслаўнай Царквы і Касцёла! Гэта нават неабходна. Бог адзін! І Царква адзіная. Царква Любові, Надзеі, Веры... А гэта значыць, патрэбна быць блізкімі адно да аднаго, сябраваць. І гэта дасць больш плён у змаганні са злом, гэта ўзмоцніць адносіны паміж братнім хрысціянскім народам!



**Сяргей Ракавец:**

– 1054 год – трагічны год для хрысціянскага свету, які скончыў больш чым шасцісотгадовы працэс расколу Царквы Хрыста на Заходнюю і Усходнюю галіны. Палітычныя гульні і амбіцыі кіраўнікоў, асабістыя інтарэсы і сквапнасць – усё тое, што хрысціянства заклікана выкараніць, – прывялі да падзелу. Сустрэча Папы Рымскага Францішка і Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла з'яўляецца важнай гістарычнай падзеяй, якая зноў дае надзею на пераадоленне ўзаемных прэтэнзій і планаванне сумесных дзеянняў па збліжэнні. У гэтым ёсць вострая неабходнасць, бо толькі разам яны змогуць супрацьстаяць пагрозам сучаснага свету, якія актыўна атакуюць хрысціянства. Ну а самае галоўнае, што хрысціяне зноў хочуць ісці адной дарогай, якую ўказаў ім Сам Езус. Дай Бог, каб гэты працэс развіваўся, распаўсюджваўся на ўсе хрысціянскія цэрквы і прывёў да поўнага адзінства братоў па веры.



**Юлія Тацэвіч:**

– Як вядома, 12 лютага адбылася сустрэча Папы Рымскага Францішка і Патрыярха Кірыла. На спатканні двух кіраўнікоў была падпісана дэкларацыя, якая закранала шматлікія пытанні. Канешне, хочацца, каб запісы, якія там узгадваюцца, прынеслі свой плён. Але для гэтага трэба сапраўды прыкласці вялікія намаганні. Я спадзяюся, што пасля гэтай сустрэчы становішча ў многіх краінах Блізкага Усходу і Паўночнай Афрыкі, дзе паслядоўнікі Хрыста зведваюць праслед і знішчаюцца цэлымі сем'ямі, зменіцца да лепшага. Мы, хрысціяне, павінны аб'ядноўвацца для сведчання святла і радасці Божага Слова! Асабліва жадаю, каб сустрэча стала адным з наступных крокаў да рашэння Святога Айца прыехаць у нашу краіну, таму што беларускія вернікі вельмі чакаюць гэтага.

**Сяргей Панамароў:**

– Хочацца звярнуць увагу на тэкст Дэкларацыі, падпісанай па выніках сустрэчы. Асабліва на сёмы тэзіс. Чакаю, каб усё пералічанае тут увасобілася ў рэальнае жыццё: шчыльнага і плённага ўзаемадзеяння каталіцкіх і праваслаўных вернікаў у справе евангелізацыі, пры распаўсюджванні хрысціянскіх каштоўнасцей, дапамозе хворым, бедным, катэхізацыі сем'яў. Сустракаў меркаванні суседкі па лесвічнай пляцоўцы, што праваслаўная вера – самая "правільная", чытаў у Інтэрнэце на форуме, што ў праваслаўным прыходзе не прынялі запіску з просьбай памаліцца за каталіка. Хацеў бы спадзявацца, што гэта адзінкавыя выпадкі і ў падобных сітуацыях найперш мусіць быць свядомасць, што падзел хрысціян на праваслаўных, каталікаў, пратэстантаў – гэта гістарычная спадчына. Таму чакаю, што сустрэча Папы і Патрыярха паспрыяе разуменню ўсімі хрысціянамі, таго, пра што прасіў Езус у малітве, "каб усе былі адно, як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, каб і яны былі ў Нас, каб паверыў свет, што Ты паслаў Мяне" (Мц. 17:21).

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Якіх вынікаў Вы чакаеце ад сустрэчы Папы і Патрыярха?**



- Спадзяюся, гэтая сустрэча прывядзе да больш блізкага дыялогу Касцёла і Праваслаўнай Царквы – 77 адказаў;
- Спадзяюся, гэта паскорыць прыезд Папы ў Беларусь – 37 адказаў;
- Думаю, што гэта сустрэча нічога не зменіць – 37 адказаў;
- Зарана чакаць нейкага эфекту. Трэба сустракацца яшчэ – 21 адказ;
- Спадзяюся, гэта дапаможа вызначыць агульную дату для святкавання Вялікадня – 11 адказаў;
- Спадзяюся, што імёны памерлых католікаў перастануць выкрэсліваць у царкве падчас памінальных набажэнстваў – 10 адказаў;
- Іншы варыянт – 3 адказы.

**Усяго адказаў – 196**

## Святому Юзафу

**Словы Марыі Ючкавіч** **Музыка Ганны Шакола**




2. Ды заступіся, рамеснік,
За тых, хто працуе шчыра
Ці на абшарах весніх,
Ці грае на струнах ліры.

3. Мы да цябе ўсе малітвы
Сягоння з паклонам узносім,
З душою, да веры адкрытай,
Цябе аб заступніцтве просім.

4. О Юзаф, адданы Богу,
Анёльскім Яго наказам!
Дабраславі дарогу,
Дзе ўсе мы, вернікі, разам!

## Святарам

Быць святаром –
Што гэта значыць?
З Хрыстом штодзённа
Несці крыж.

Да Бога душам
Сцежку значыць.
Усіх любіць
І быць усім для ўсіх.

*Алена Пажога*

## У Велікоднай таямніцы

**Словы Марыі Ючкавіч** **Музыка Ганны Шакола**




2. Уваскрасення Твайго святасць,
О Езу, сілу нам дае!
Духоўны плён для нас багаты.
Мы – дзеці грэшныя Твае.

Прыпеў.

3. Пад крыжам сталі памаліцца,
Пакаяцца ў сваіх грахах.
Нас кліча святасць таямніцы,
Якая асвятляе шлях.

Прыпеў.

Каталіцкі ВЕСНІК

**Хвала Хрысту!**

**Паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі "Каталіцкага Весніка"!**

Прыміце наша віншаванне з надыходам свята Уваскрасення Пана! Жадаем вам добрага здароўя і плёну ў працы на творчай ніве па ўзрастанні нашай веры. Дзякуем вам!

*Парафіяне Пастаўскай парафіі*

## Правільныя адказы на віктарыну, змешчаную на старонцы 12:

1. В; 2. Б; 3. А; 4. В; 5. Б; 6. В; 7. А; 8. Б; 9. А; 10. Б; 11. А; 12. Б; 13. В; 14. Б; 15. А; 16. А; 17. В; 18. В; 19. Б; 20. А.

# Контрацепция и сексуальное разнообразие в семье – грех?



**«Хотелось бы задать следующие нескромные вопросы: использование презервативов в сексуальных отношениях мужа и жены является грехом или нет? Если да, то каким? Разнообразие в сексуальных отношениях мужа и жены, доставление удовольствия различными способами является грехом или нет? Если да, то каким?»**
*Андрей*

**На вопрос отвечает о. Змитер Чернель:**

– Подробный ответ на вопрос о допустимости контрацепции недавно опубликовала Русская редакция Ватиканского радио. Второй Ватиканский собор в конституции «Gaudiumetspes» предлагает такое истолкование Божественного закона в отношении контрацепции: *«Когда речь идёт о сочетании супружеской любви с ответственным деторождением, нравственный характер поведения зависит не только от искреннего намерения и от оценки мотивов: он должен определяться объективными критериями, почерпнутыми из природы личности и её поступков – критериями, которые в контексте настоящей любви сохраняют подлинный смысл взаимоотдачи супругов и человеческого деторождения. А это возможно лишь тогда, когда чистосердечно соблюдается добродетель супружеского целомудрия. При планировании деторождения чадам Церкви, опирающимся на эти принципы, не дозволено идти теми путями, которые отвергает Учительство Церкви, объясняющее Божественный закон»* (51).

Контрацепция противоречит полной супружеской отдаче себя друг другу. Как неоднократно повторял святой Иоанн Павел II, контрацепция нарушает целостность взаимного дара.

Разумеется, контрацепцию, которая является тяжким (смертным) грехом, нельзя приравнивать к убийству. Существуют разные степени тяжести смертных грехов. Но, как в гражданском правосудии в тюрьму попадают и за убийство, и за воровство, которые между собой разнятся по тяжести и по виду и сроку наказания, так и в христианской нравственности грехи различаются между собой по тяжести. И убийство, и пропуск воскресной Мессы без причины – смертные грехи, лишающие благодати, хотя они абсолютно несопоставимы по тяжести.

Католик, который не посещает воскресную Мессу или пользуется контрацепцией, может быть вполне добропорядочным человеком и активным прихожанином. Критерий греха относится к сверхъестественному порядку, и этот критерий – любовь, которая выражается в созвучии нашей воли воле Божьей. Господа любит тот, кто исполняет Его заповеди: *«Кто имеет заповеди Мои и соблюдает их, тот любит Меня»*, – говорит Господь (Ин. 14,21). Тот, кто не соблюдает Его заповедей, каким бы порядочным человеком он ни был, не может говорить, что любит Господа: *«Кто говорит: «я познал Его», но заповедей Его не соблюдает, тот лжец, и нет в нем истины»* (1 Ин. 2,4).

Святой Фома Аквинский напоминает, что *«смертным является грех, который отнимает жизнь духа, порожденную любовью – добродетелью, в силу которой Бог обитает в нас. Поэтому к смертным относится тот грех, который сам по себе, то есть по своей природе, несовместим с любовью»* («Сумма теологии», II).

Путь нашего освящения и нашей дружбы с Господом осуществляется не спорадически, а шаг за шагом, в каждом нашем выборе, в каждом действии. Особенно это касается таких значимых действий, как супружеский акт, где человек полностью отдает себя другому, открываясь для зарождения новой жизни. Ведь искусственно бесплодные супружеские акты не только закрыты для деторождения, но и препятствуют полной взаимной отдаче. Всецелый взаимный дар может происходить только в том случае, если этот дар включает и открытость к зарождению новой жизни, плода любви без оговорок. В любом случае, искусственные препятствия детородной функции являются вмешательством в замысел Творца о сексуальной сфере и человеческой любви.

Процитируем здесь Руководство для исповедников, изданное Папским советом по душепопечению о семьях в 1997 году: *«Церковь всегда учила тому, что контрацепция, то есть намеренное бесплодие каждого отдельного супружеского акта, является существенным злом. Это учение следует считать окончательным и неизменным. Контрацепция представляет собой серьезное нарушение супружеского целомудрия и противоречит благу передачи жизни (прокреативному аспекту брака) и взаимному дару супругов (объединяющему аспекту брака). Она ранит подлинную любовь и отрицает верховную роль Бога в передаче человеческой жизни»* (2.4).

Таким образом, учительство Церкви о контрацепции не подлежит пересмотру.

Это учительство предполагает ответственный подход к деторождению, включающий естественные методы планирования семьи.

На вторую часть Вашего вопроса ответ есть в книге Ксаверия Кнотца «Секс, которого не знаете». Сексуальное удовлетворение естественно сопровождает встречу супругов, которые любят друг друга. Бог в полной мере принимает это человеческое чувство. Он позволяет радоваться им в супружеском акте. Папа Пий XII в речи «Нравственные вопросы супружеской жизни» отмечает: *«Волей самого Творца было (...), чтобы супружеская пара в совместном, полном физическом предании себя друг другу испытывали телесное и духовное удовлетворение и счастье. Поэтому, когда муж и жена ищут и получают такое удовольствие, то тем самым не делают ничего плохого, используют только то, что уделил им Творец»*. Пределом совместных поисков и получения удовольствия является использование природных свойств человеческого тела – то, что я своим телом могу предложить любимому человеку и то, что она своим телом может предложить мне. Такого типа поиски, пока будут оставаться выражением взаимной любви и уважения, никогда не будут противоречить личностному восприятию друг друга.

Проблема появляется тогда, когда супруги начинают использовать разного типа стимуляторы: кольца для продолжения эрекции, вагинальные шарики, химические средства, усиливающие возбуждение, и тому подобное. Когда супруги ступят на такую дорогу, то начнут скатываться по наклонной плоскости. Забота об удовлетворении перестает быть даром одного лица другому, а становиться исключительно техникой возбуждения друг друга. Настоящее единство творится тогда, когда один человек одаривает другого, но в пределах, определенных природой, человеческой биологией.

Если супружеская пара приступает к ласкам с намерением завершения полного полового акта (с эякуляцией во влагалище женщины), то любое, направленное на возбуждение, поведение (вид ласки, сексуальных позиций) разрешается и является согласным с Божьим замыслом. Во время полового акта пара может проявлять любовь друг другу любым способом, даже самыми изысканными ласками. Супруги могут использовать ручную (мануальную) и оральную стимуляцию. Не существует религиозного обоснования введению точных указаний относительно того, какие жесты и ласки разрешены, а каких не должно быть во время половых отношений.

## Як правільна па-беларуску: “ЗАГАДЧЫК БІБЛІЯТЭКАЙ” ці “ЗАГАДЧЫК БІБЛІЯТЭКІ”?

**Досыць часта і ў вусным маўленні, і ў пісьмовай практыцы, у тым ліку і ў мове сродкаў масавай інфармацыі, паралельна ўжываюцца канструкцыі кшталту *загадчык бібліятэкай* і *загадчык бібліятэкі*, *загадчык складам* і *загадчык склада* або, як у паліклініцы ці лякарні, – *загадчык аддзяленнем* і *загадчык аддзялення*.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Але падобныя словазлучэнні нельга разглядаць як раўнапраўныя з пункту гледжання нормаў беларускай літаратурнай мовы. Гэта значыць, што правільная можа быць толькі адна канструкцыя.

Кіраванне як від падпарадкавальнай сувязі ў беларускай мове мае істотныя адрозненні ад рускай. Напрыклад, мы кажам *дзякаваць брату* (давальны склон), а ў рускай мове – *благодарить брата* (вінавальны); па-беларуску, напрыклад, *хварэць на грып* (вінавальны), а ў рускай – *болеть гриппом* (творны і без прыназоўніка). Гэта азначае, што ў свядомасці носьбітаў розных моваў паразнаму структуруюцца адпаведныя паняцці. І па-рознаму афармляюцца як у вусным маўленні, так і на пісьме.

У беларускай мове слова **загадчык** спалучаецца з назоўнікамі, якія павінны ўжывацца ў родным склоне: **загадчык** (чаго?) *кафедры, бібліятэкі, аддзялення, аддзела, склада, крамы, дзіцячага дома, канцылярыі, навуковай часткі, фермы, гаспадаркі* і г.д. У рускай жа мове адпаведная лексема **заведующий** патрабуе творнага склону: **заведующий** (чем?) *библиотекой, кафедрой, отделением, отделом, складом, магазином, детским домом, канцелярией, научной частью, фермой, хозяйством* і г.д. У нашай мове слова **загадчык**, інакш кажучы, не можа ўтвараць словазлучэнне з назоўнікам у творным склоне. Таму па-беларуску правільнымі будуць ужыванні кшталту *Ён працуе **загадчыкам склада***; *Яе прызначылі **загадчыкам аддзялення***; *Мікалай Пятровіч цяпер **загадчык бібліятэкі***.

# На чым палягае заступніцтва святых?

*"Мой сябра крытыкуе Касцёл за пакланенне святым. Я яму спрабаваў тлумачыць, на чым палягае заступніцтва святых, але ў мяне не хапае аргументаў. Ці не маглі б вы ўказаць на тэксты ў Св. Пісанні пра заступніцтва святых? Чаму мы звяртаемся да іх па дапамогу? Дзякуй!"*
*Павел*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Св. Пісанне рашуча забараняе аказваць каму-небудзь пакланенне і служэнне, акрамя адзінага праўдзівага Бога, але ўвогуле не забараняе аддаваць належную пашану верным слугам Бога так, каб уся хвала адносілася да Яго ж Адзінага, як "дзіўнага ў святых Сваіх" (Пс. 67, 36).

«Вось адгэтуль блаславяць Мяне будуць усе роды» (Лк. 1, 48). Здзяйсняючы гадавы цыкл таінстваў Хрыста, Святы Касцёл з асаблівай любоўю ўшаноўвае Найсвяцейшую Дзеву Марыю, Маці Божую, Якая непарыўна звязана са збаўчай справай свайго Сына. Ёю Касцёл захапляецца і Яе ўзносіць як найвышэйшы плод Адкуплення, і ў Ёй як у найчысцейшым адлюстраванні Касцёл з радасцю спаглядае тое, чым сам ён цалкам прагне, і спадзяецца быць.

У Новым Запавеце Сам Хрыстос сведчыў Сваім вучням: "Хто вас прымае – Мяне прымае, а хто Мяне прымае – прымае Таго, хто Мяне паслаў" (Мц. 10, 40), паказваючы, што пашана, аддаваная верным слугам Яго і сябрам, адносіцца да Яго Самога.

Апостал Павел таксама гаворыць: "Памятайце пра настаўнікаў вашых, якія абвяшчалі вам Слова Божае і, сочачы за ходам іхняга жыцця, будзьце іхнімі пераймальнікамі ў веры" (Гбр. 13, 7). Калі Касцёл у гадавым цыкле памінае мучанікаў і іншых святых, ён абвяшчае Пасхальную таямніцу ў тых, хто пакутаваў з Хрыстом і праслаўлены з Ім, прапаноўваючы вернікам іх прыклад, які ўсіх прываблівае праз Хрыста да Айца, а праз іх заслугі вымольвае ласку Божую. Мы ўшаноўваем памяць жыхароў Неба не толькі дзеля іх прыкладу, але яшчэ больш дзеля таго, каб еднасць усяго Касцёла ў духу ўмацоўвалася праз братнюю любоў. Бо як зносіны паміж хрысціянамі на зямлі набліжаюць нас да Хрыста, так і зносіны са святымі яднаюць нас з Хрыстом.

У раннехрысціянскім творы "Мучаніцтва Палікарпа" чытаем: "Хрысту мы пакланяемся, бо Ён ёсць Сынам Божым; мучанікаў жа мы любім як вучняў і пераймальнікаў Госпада, што і правільна ў сілу іх непараўнальнай адданасці свайму Цару і Настаўніку". "Памяць пра праведнага блаславёная будзе, а імя бязбожных зганьбіцца" (Прып. 10, 7).

З ушанаваннем святых звязана таксама ўшанаванне іх мошчаў. Святы Рыгор Багаслоў сведчыў: "Святыя мучанікі праслаўляюцца вялікімі ўшанаваннямі і сяткаваннямі, яны праганяюць дэманаў, лечаць хваробы, яўляюцца, прамаўляюць; самыя целы іх, калі да іх дакранаюцца і ўшаноўваюць іх, столькі ж дзейнічаюць, як святыя душы іх; нават кроплі крыві і ўсё, што носіць на сабе сляды іх пакутаў, гэтак жа дзейсныя, як іх целы". Падобны прыклад маем у Св. Пісанні: "І памёр Елісей, і пахавалі яго. І полчышчы Маавіцян прыйшлі ў зямлю на другі год. І было, што калі хавалі аднаго чалавека, дык, убачыўшы гэта полчышча, пахавальнікі кінулі таго чалавека ў магілу Елісеевую, і ён, падаючы, дакрануўся да касцей Елісея, і ажыў, і ўстаў на ногі свае" (4 Цар. 13, 20-21).

Як сведчыць Святое Пісанне, габрэі ўшаноўвалі мошчы праведнікаў захаваннем іх і пабудовай над імі помнікаў і грабніцаў (Быц. 35, 20; Вых. 13, 19; Мц. 23, 29). У Дзеяннях апосталаў расказваецца пра выкарыстанне хустак і паясоў з цела апостала Паўла для лячэння хвароб і выгнання злых духаў: "І Бог чыніў таксама цуды праз рукі Паўла, так што нават хусткі і паясы з яго цела клалі на хворых, і хваробы пакідалі іх ды выходзілі ліхія духі" (Дз. 19, 11-12).

Пра ўшанаванне мошчаў святых 7-мы Сусветны сабор сцвярджае: "Госпад наш Ісус Хрыстос дараваў нам мошчы святых як збаўчыя крыніцы, якія выліваюць дабрадзействы на немачных. Тыя, што асмеліліся адкідаць мошчы мучанікаў, пра якія яны ведалі, што яны сапраўдныя і праўдзівыя, калі гэта біскупы або клірыкі, – няхай будуць выключаныя з сану, а калі манахі і свецкія, – няхай будуць пазбаўленыя прычашчэння!"





# Чым аздабляць велікодныя яйкі?

*"Ці можна выкарыстоўваць выявы святых для аздаблення велікодных яек?"*
*Юля*

**На пытанне адказвае кс. Андрэй Сідаровіч МІС:**

– Існуюць розныя легенды пра ўзнікненне традыцыі размалёўвання велікодных яек. Адна з іх распавядае, што святая Магдалена, ідучы да месца пахавання Езуса, вырашыла купіць на сняданак апосталам яйкі. А пасля сустрэчы з Уваскрослым яна заўважыла, што нават яйкі ў кошыку ад радасці змянілі колер.

Лічыцца, што самы адпаведны колер для яек – чырвоны, бо сімвалізуе пакуты і кроў Хрыста. Аднак у хрысціянскай традыцыі ўжываюцца і іншыя колеры на знак радасці перамогі жыцця над смерцю. Маляванне і аздабленне яек сталі прыгожай велікоднай традыцыяй. Велікодныя яйкі могуць быць не толькі святочнымі сувенірамі, але нават ювелірнымі шэдэўрамі, такімі, як, напрыклад, славутыя яйкі Фабержэ.

Велікоднае яйко – гэта сімвал уваскрашэння і перамогі. Таму няма перашкодаў, каб на ім была выява святога чалавека – сведкі Хрыстовага ўваскрасення і перамогі ў змаганні за святасць.

# Як спалучыць веру і навуку?

*"Я студэнтка. Чым больш я займаюся навукай, тым слабейшай становіцца мая вера. Як мне быць? Дапамажыце, калі ласка".*
*Ганна*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Навука і вера не павінны супярэчыць адна адной. Вера нам кажа пра прычыны, навука – пра механізмы. Вера адказвае на пытанне "чаму?", а навука – "як?" Св. Ян Павел ІІ у энцыкліцы «Fides et ratio» пісаў: «Вера і розум – гэта нібы два крылы, на якіх дух чалавечы ўзносіцца да сузірання праўды, бо Сам Бог прывіў людскому сэрцу прагу пазнання праўды, а таксама пазнання Яго самога». Паводле св. арцыбіскупа Ансельма Кентэрбэрыйскага, прымат веры не забараняе розуму весці самастойныя пошукі. Прага спасцігнуць ісціну загадвае розуму ісці ўсё далей; розум здзіўляе сваімі няспынна ўзрастальнымі магчымасцямі пашыраць гарызонты свайго пазнання. Але разам з тым розум таксама ў стане заўважыць, дзе заканчваецца яго шлях.

Розум, пазбаўлены дапамогі Аб'яўлення, асуджаны на блуканне вакольнымі шляхамі, у выніку чаго ён мае пагрозу страціць сваю канчатковую мэту. Вера, пазбаўленая падтрымкі розуму, сканцэнтроўваецца больш на пачуццях і перажываннях, таму ўзнікае небяспека, што яна страціць свой універсальны характар. Глыбіні веры павінна адпавядаць адвага розуму.

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"
вул. Савецкая, 1
211800
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Мiсевiч
Вiктар Мар'янавiч
вул. Савецкая, 1
211800
г. Глыбокае
Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў ва ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Piligrymka.by запрашае ў паломніцтвы да святых мясцін



**З глыбокай старажытнасці хрысціяне выпраўляліся ў падарожжы, каб убачыць мясціны, звязаныя з зямным жыццём Збаўцы, а таксама наведаць месцы аб'яўлення Маці Божай, месцы жыцця і дзейнасці святых. Мільёны людзей імкнуліся і імкнуцца апынуцца ў гэтых мясцінах, каб узнесці словы малітвы, падзякі і просьбы. Колькасць паломнікаў расце з году ў год, і ў цяперашні час цікавасць да паломніцтваў не згасае.**

І не дзіўна: усё больш людзей становіцца на шлях самапазнання і духоўнага развіцця, звяртае свой позірк да Бога. Да таго ж паломніцтва з'яўляецца наймагутным інструментам у духоўным развіцці чалавека, бо дазваляе на час адарвацца ад зямных падзей і цалкам засяродзіцца на Богу, што ў сваю чаргу спрыяе моцнаму духоўнаму ўздыму ў ходзе паломніцтва.

Але час ідзе, і ў дадатак да пешых падарожжаў з'явіліся паломніцтвы, якія магчыма ажыццявіць на камфартабельным аўтобусе ці на самалёце.

**Парафія св. Язафата Кунцэвіча ў Расонах запрашае прыняць удзел у пілігрымках (паломніцтвах) і падарожжах да святых і гістарычных месцаў** Заходняй Еўропы і Ізраіля, якія прыцягваюць людзей з розных куткоў свету, выклікаюць захапленне і прыносяць духоўнае ўзбагачэнне.

**Мы прапануем пілігрымкі да святынь Еўропы:** Фаціма, Лурд, Рым (Ватыкан), Падуя, Чэнстахова, Ліхень. Вы зможаце не толькі памаліцца ў святынях Еўропы, але і ўзбагаціць свой досвед падчас аглядавых экскурсій у Кёльне, Парыжы, Лісабоне, Барселоне, Венецыі, Празе.

Далучайцеся да нас, і Вам будзе гарантавана добрая кампанія, а таксама насычаная экскурсійная праграма. Кожную пілігрымку суправаджае святар.

**У 2016 годзе мы з радасцю запрашаем Вас у наступныя пілігрымкі:**

18.04. – **Пілігрымка да месца пахавання Св. Язафата Кунцэвіча ў Рым і Ватыкан** – 9 дзён.
Мінск – Чэнстахова – Вена – Рым / Ватыкан – Венецыя – Мінск
Час: 18–26 красавіка.
Кошт: **340** еўра + visa.

16.05. – **Пілігрымка да святога Мікалая Цудатворцы, Бары (Італія)** – 11 дзён.
Мінск – Чэнстахова – Вена – Рым / Ватыкан – Бары – Асізі – Падуя – Браціслава – Мінск
Час: 16–26 мая.
Кошт: **470** еўра + visa.

31.05. – **Пілігрымка на Мальту "Слядамі апостала Паўла"**.
Час: 31мая – 9 чэрвеня.
Кошт: **800** еўра + visa.

12.06. – **Пілігрымка ў Лурд (Францыя). Марыйны санктуарый** – 12 дзён.
Мінск – Ліхень – Кёльн – Парыж – Лурд /Лурд – Авіньён – Падуя – Прага – Мінск
Час: 12–23 чэрвеня.
Кошт: **520** еўра + visa.

03.07. – **Пілігрымка ў Меджугор'е (Боснія і Герцагавіна)** – 12 дзён.
Мінск – Кракаў – Браціслава – Загрэб – Меджугор'е – Дуброўнік – Мінск (з адпачынкам на моры)
Час: 03–14 ліпеня.
Кошт: **550** еўра + visa.

09.07. – **Пілігрымка ў Германію**.
У праграме – семінар "Германія сёння. Гісторыя хрысціянства".
Хельмштэдт – Магдэбург – Браўншвейг – Вольфсбург – Гослар – Берлін або Дрэздэн
Час: 09–19 ліпеня.
Кошт: **420** еўра + visa.

16.07, і 01.08. – **Пілігрымка да базілікі Св. Антонія. Падуя (Італія).** З адпачынкам на моры –11 дзён.
Мінск – Кракаў – Вена – Рыміні / Рыміні (Сан-Марына) – Падуя – Венецыя – Мінск
Час: 16–26 ліпеня і 1–11 жніўня.
Кошт: **480** еўра + visa / **489** еўра + visa.

14.08. – **Пілігрымка ў хрысціянскую Грузію. З адпачынкам на моры. Вылет з Мінска.**
Тбілісі – Кахетыя – Сігнахі – Цынандалі –Мцхета – Вардзія – Кутаісі – Батумі
Час: 14–22 жніўня.
Кошт: **880** даляраў.

24.08. – **Пілігрымка на зямлю Св. Брыгіты, апякункі Еўропы (Швецыя)** –7 дзён.
Мінск – Талін – Хельсінкі – Стакгольм – Рыга – Аглона – Мінск
Час: 24–30 жніўня.
Кошт: **430** еўра + visa.

05.09. – **Пілігрымка да месца пахавання Св. Язафата Кунцэвіча ў Рым і Ватыкан** – 9 дзён.
Мінск – Чэнстахова – Вена – Рым / Ватыкан – Венецыя –Мінск
Час: 05–13 верасня.
Кошт: **340** еўра + visa.

28.09. – **Пілігрымка да месца аб'яўлення Маці Божай у Фаціме (Партугалія)** – 16 дзён.
Мінск – Ліхень – Кёльн – Парыж – Лурд – Санцьяга-дэ-Кампастэла – Фаціма / Фаціма – Барселона – Падуя – Чэнстахова – Мінск
Час: 28 верасня –13 кастрычніка.
Кошт: **680** еўра + visa.

02.12. – **Калядны кірмаш. Хрысціянскія традыцыі.**
Мінск – Кракаў – Браціслава – Прага – Дрэздэн – Вроцлаў – Мінск
Час: 02–08 снежня.
Кошт: **385** еўра + visa.

12.12. – **Перадкалядная пілігрымка па Германіі – цудоўная казка!**
У праграме – семінар "Германія сёння. Гісторыя хрысціянства".
Хельмштэдт – Магдэбург – Браўншвейг – Вольфсбург – Гослар – Берлін або Дрэздэн
Час: 12–22 снежня.
Кошт: **420** еўра + visa.

**Снежань 2016 – студзень 2017**
**39-я Агульнаеўрапейская сустрэча моладзі падчас Новага 2017 года.**

**І, нарэшце, Святая Зямля – Ізраіль.**
У гэтым годзе Вы таксама маеце выдатную магчымасць наведаць незвычайную краіну – Ізраіль. Мы прапануем наступныя пілігрымкі на Святую Зямлю:
**з 15 па 26 мая** – на 11 начэй з адпачынкам на моры. Кошт: **1140** даляраў;
**з 11 па 22 верасня** – на 11 начэй з адпачынкам на моры. Кошт: **1140** даляраў;
**з 15 па 22 верасня** – на 7 начэй. Кошт: **890** даляраў;
**з 9 па 16 кастрычніка** – на 7 начэй. Кошт: **890** даляраў;
**з 16 па 27 кастрычніка** – на 11 начэй з адпачынкам на моры. Кошт: **1140** даляраў;
**з 9 па 16 лістапада** – на 7 начэй. Кошт: **890** даляраў.

Падчас пілігрымкі Вы ўбачыце Іерусалім, Назарэт, Віфлеем, Хайфу, Галілейскае і Мёртвае моры, раку Іардан, гару Фавор, Кану Галілейскую і многае іншае.

Сотні паломнікаў з Беларусі наведалі з намі Ізраіль за апошнія некалькі гадоў. Перавага паломніцтваў з намі ў тым, што духоўнае ўзбагачэнне падчас знаходжання ў святых месцах можна сумясціць з адпачынкам і культурна-пазнавальнай праграмай.

Больш падрабязна з праграмамі пілігрымак можна пазнаёміцца на нашым сайце *www.piligrymka.by*, а таксама па наступных тэлефонах:

**Velcom (29) 602-00-98; МТС (29) 708-00-78.**

**Даведка пра арганізатараў пілігрымак**

Рыма-каталіцкая парафія святога Язафата Кунцэвіча ў г. п. Расоны з'яўляецца афіцыйным арганізатарам паломніцкіх аўтобусных тураў па святых месцах Еўропы і авіятураў у Ізраіль, на Святую Зямлю. Досвед працы ў арганізацыі пілігрымак – больш за 6 гадоў. Сваіх прадстаўнікоў мы маем у Мінску, Віцебску, Полацку і іншых гарадах Беларусі. Сёння мы можам прапанаваць больш за дзясятак цалкам прапрацаваных маршрутаў па святых месцах: паломніцтвы ў Ізраіль, пілігрымкі да Маці Божай у Лурд (Францыя) і ў Фаціму (Партугалія), да труны Св. Апостала Якуба ў Санцьяга-дэ-Кампастэла (Іспанія), па месцах місійных вандровак св. Апостала Паўла (Мальта), па слядах Св. Кірыла і Мяфодзія (Чэхія), у Рым і Ватыкан да месца пахавання св. Язафата Кунцэвіча (Польшча, Аўстрыя, Італія).

Арганізатары пілігрымак не маюць камерцыйных мэтаў. З усімі маршрутамі можна азнаёміцца на афіцыйным сайце парафіі: *www.piligrymka.by*.

# Што? Дзе? Калі?

## Каталіцкая віктарына

**1. Посуд для захоўвання вады і віна падчас св. Імшы:**
А) шклянкі
Б) кубачкі
В) ампулкі

**2. Земляроб, які забіў свайго брата:**
А) Бараба
Б) Каін
В) Самсон

**3. Асноўнае адзенне святара падчас св. Імшы:**
А) арнат
Б) комжа
В) сутана

**4. Адно з адгалінаванняў францішканскага ордэна:**
А) сальватарыяне
Б) езуіты
В) капуцыны

**5. Посуд, у які святар налівае віно і ваду падчас св. Імшы:**
А) крапільніца
Б) келіх
В) кадзідла

**6. Святы Павел напісаў у гэты горад два лісты:**
А) Ерусалім
Б) Рым
В) Карынф

**7. Посах, які носіць біскуп падчас урачыстай св. Імшы:**
А) пастарал
Б) карпарал
В) імшал

**8. Перад святарскімі пасвячэннямі адбываюцца пасвячэнні...**
А) прэзбітэрату
Б) дыяканату
В) біскупства

**9. Сімвал Духа Святога:**
А) голуб
Б) ягнятка
В) арол

**10. Назва "Дамінікане" перакладаецца як:**
А) будаўнікі з Канаў
Б) сабакі Госпада
В) грамадзяне Дамініканскай рэспублікі

**11. Прысутнасць Хрыста пад відам хлеба і віна – гэта:**
А) Эўхарыстыя
Б) закрыстыя
В) Прачыстая

**12. Пастырскі ліст ад Папы:**
А) дэкрэт
Б) энцыкліка
В) була

**13. Другая кніга Бібліі:**
А) Другазаконне
Б) Другая Кніга Валадарстваў
В) Выходу

**14. Тэрмін, які азначае "рух за еднасць усіх хрысціянаў":**
А) рэлятывізм
Б) экуменізм
В) секулярызм

**15. Выгнанне злога духа:**
А) экзарцызм
Б) каталіцызм
В) канфармізм

**16. Што перасоўвае горы?**
А) вера
Б) надзея
В) любоў

**17. У якім годзе адбыліся аб'яўленні Маці Божай у Фаціме?**
А) 1914
Б) 1918
В) 1917

**18. Дзе адбылася сустрэча Папы Францішка і Патрыярха Кірыла?**
А) у Рыме
Б) у Маскве
В) на Кубе

**19. З якой краіны родам св. Ігнацый Лаёла?**
А) з Польшчы
Б) з Іспаніі
В) з Партугаліі

**20. У якім годзе пачаўся ІІ Ватыканскі Сабор?**
А) у 1962
Б) у 1978
В) у 1054

*Правільныя адказы гл. на стар.9*

*Падрыхтаваў кс. Віктар Місевіч*

## Віншуем!



*Шаноўнаму* ***кс. Мікалаю Ціхановічу*** *з нагоды Дня ўстанаўлення сакраманту святарства і свята Уваскрасення Пана складаем самыя сардэчныя пажаданні! Няхай Хрыстос Уваскрослы, Збаўца Свету, адорыць яго сваімі ласкамі, радасцю і супакоем.*

***Францішканскі закон свецкіх з Вялікіх Эйсмантаў і Кола Жывога Ружанца з Вялікіх Ёдкавічаў***

## Хвала Хрысту!



*21 сакавіка чарговую гадавіну святарскага пасвячэння адзначае* ***ксёндз Аляксандр Грыцкевіч****.*

*Віншуем яго з гэтай нагоды, а таксама з надыходам светлага свята Пасхі. Мы вельмі ўдзячныя Пану Богу, што Ён паслаў нам такога цудоўнага святара! Няхай Міласэрны Бог адорыць ксяндза Аляксандра ўсімі патрэбнымі ласкамі на святарскім шляху!*

*Свае віншаванні і словы шчырай падзякі выказваем таксама а. Тадэвушу Кавальскаму, а. Генрыху Кучынскаму, бр. Максіму, бр. Францішку. Усім вам, шаноўныя, жадаем дароў Святога Духа і апекі Маці Божай.*

***З удзячнасцю і любоўю, вернікі парафіі Найсвяцейшай Панны Марыі ў Верхнядзвінску***

## Віншуем!
## Хвала Хрысту!

*Са светлым святам Уваскрасення Пана сардэчна віншуем* ***ксяндза Мікалая Ціхановіча, ксяндза Яўгена Міхайлава, ксяндза Івана Кароткіна, сясцёр законных****, а таксама ўсіх святароў, якія служылі ў нашай парафіі! Жадаем шаноўным святарам і сёстрам шчырай Велікоднай радасці, Божага блаславення, мудрасці і святога запалу, сілы і цярплівасці ў шчыраванні на Божай ніве!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы, г. Глыбокае***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Шчыра віншуем паважанага* ***ксяндза Юзафа Сярпейку*** *з Днём імянінаў!*



***"Шчаслівы, хто ёсць пад апекай***
***Патрона добрага Юзафа.***
***Боязі хай не паддаецца,***
***Юзаф пры ім застаецца –***
***Ёсць пры ім ..."***
*(З песні "Шчаслівы, хто ёсць пад апекай...")*

*Ксёндз Юзаф шчаслівы,*
*Бо мудры і справядлівы.*
*Ксёндз Юзаф шчаслівы,*
*Бо выпрабаваннем ёсць яго дарога.*

*Ксёндз Юзаф шчаслівы,*
*Бо добры, мужны і цярплівы,*
*Наследуючы гэтым свайго Апякуна Святога...*

*Няхай жа Патрон ксяндзу родны*
*Дапаможа ў кожнай патрэбе,*
*А святар заўсёды будзе годны*
*Яго заступніцтва ў небе!*

*У Дзень вялікі імянінаў*
*У касцёле Юзафа Святога*
*Аб ласках для ксяндза, дараванні правінаў*
*"Маргарытка" моліцца да Бога...*

***З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, удзельнікі малітоўнага руху "Апостальства Маргарыткі" парафіі св. Юзафа ў Рубяжэвічах***

## ХРЫСТОС УВАСКРОС!!!

***Божа Магутны!***
***Усе з Твае ласкі***
***Мы дачакалі***
***Светлае Пасхі!***

***Светлай нядзелькай***
***З самага рання***
***Свет захіснула***
***Хваляй кахання!***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Пасха – гэта наша збаўленне, "гэта дзень, што стварыў Пан", як першы дзень новага жыцця, у каторым Сонца, якім ёсць Сам Хрыстус, ніколі больш не зойдзе. "Я ўваскрос і цяпер заўсёды буду з табою!"... Гэта свята гучыць пераможным звонам ва ўсіх кацёлах свету.*

*У светлы дзень Пасхі, мы, вернікі Браслаўскай парафіі Нараджэння Маці Божай, шчыра віншуем* ***ксяндза-пробашча Станіслава Мжыглуда, кс. Уладзіміра Шыдлоўскага, кс. Лешака Вітвіцкага****, а таксама іншых святароў, сясцёр законных, якія паходзяць з нашай парафіі, і ўсіх вернікаў са святам Уваскрасення Езуса Хрыста!*

*Жадаем здароўя, радасці, поспехаў і яднання ў Хрысце, Які перамог смерць і ўваскрос.*

*Няхай уваскрослы Хрыстус будзе жаданым госцем у нашых сэрцах, нашых думках, словах і ўчынках! Са святам!*

***Вернікі Браслаўскай парафіі Нараджэння Маці Божай***

## Шчыра віншуем!

*18 лютага Дзень нараджэння адзначыў наш любімы святар* ***ксёндз Вадзім Прасяной SCJ****. З гэтай нагоды сардэчна віншуем яго і жадаем добрага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, ласкі Пана і апекі Маці Божай! Уся наша парафія моліцца за Вас!*

***З любоўю, павагай і ўдзячнасцю, вернікі Пастаўскай парафіі***

## Віншуем!
## Хвала Хрысту!



*Шчыра віншуем* ***ксяндза-пробашча Сяргея Сурыновіча*** *з 40-годдзем з дня нараджэння, якое ён адзначае 13 красавіка.*
*Няхай засеянае Вамі, ойча Сяргей, зерне на Божай ніве прыносіць добры плён, а Пан Бог хай адорвае Вас усімі ласкамі!*
*Святы Дух хай узмацняе і памнажае Вашу мудрасць, падтрымлівае ў цяжкія хвіліны!*
*Няхай будзе трывалым здароўе, заўсёды добры настрой.*

*У дзень народзін жадаем шчыра*
*Дабра, святла, удачы, міру.*
*Хай дарує Вам Бог цярпення,*
*А ў працы моцы і натхнення.*
*Хай усе мары явай стануць,*
*А ўсе надзеі не падмануць!*

***З павагай, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Друі***

## Віншуем цудоўнага святара!
## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*17 сакавіка – Дзень нараджэння нашага* ***ксяндза Ігната Санюты****.*

*Дарагі наш ксёндз Ігнат! З гэтай нагоды складаем для Цябе сардэчныя зычэнні: наймацнейшага здароўя, доўгіх гадоў жыцця! А шчасцем Цябе Пан Бог адарыў, бо з'яўляешся цудоўным святаром.*

*Дзякуем Табе за працу і за малітвы ў нашым касцёле. Дзякуем за абвяшчэнне Слова Божага, за ўдзяленне сакрамантаў, за пастырскі клопат пра ўсіх авечак са сваёй аўчарні, за служэнне ўсім і кожнаму асабіста. З найвялікшым айцоўскім клопатам Ты дбаеш пра нашы душы і душы нашых памерлых. Клапоцішся пра ўпарадкаванне і прыгажосць нашага касцёла.*

*Няхай за ўсё Пан Бог узнагародзіць Цябе, а Маці Найсвяцейшая хай ахіне плашчом сваёй мацярынскай любові на ўсё жыццё! Мы, парафіяне, абяцаем дапамагаць у душпастырскай працы духоўна, фізічна і матэрыяльна.*

*Дарагі ксёндз Ігнат! Ад імя ўсёй парафіі дзякуем Тваім бацькам, што маем такога добрага і прыгожага святара. Няхай Пан Бог за ўсё ім аддзячыць!*

***Ад імя парафіян ў Ахрэмаўцах, Марыя Прошка***

## Памятаем, любім, віншуем!



*21 сакавіка* ***ксёндз Аляксандр Грыцкевіч****, які нясе службу ў Верхнядзвінску, адзначае гадавіну святарскіх пасвячэнняў.*

*Першыя шэсць гадоў сваёй святарскай дзейнасці ён нястомна і самааддана прысвяціў парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзісне. Шчыры, малады, як анёл з неба з'явіўся ён у нашым касцёле і з першых дзён стаў для нас сапраўдным святаром ад Бога. Кожная сустрэча з ксяндзом Аляксандрам – прыклад дабрыні і міласэрнасці, веры і любові.*

*Дзісна не адзінае месца, дзе святар праводзіў набажэнствы. Былі яшчэ Завуцце, Язна і наша Мікалаёва.*

*Раней у нас была свая парафія і касцёл Усіх Святых і святога Антонія. Але ў пачатку 50-х гадоў парафію знішчылі, а касцёл ператварылі ў зернясклад. Будынак стаў разбурацца. Цяпер засталіся толькі сцены.*

*Дзякуючы ініцыятыве, энтузіязму, настойлівасці, працавітасці нашага святара і падтрымцы добрых людзей мы некалькі дзён наводзілі парадак у паўразбураным і засмечаным будынку, рыхтавалі яго да ўрачыстасці.*

*Нельга забыцца на той доўгачаканы і шчаслівы дзень 17 чэрвеня 2012 года, калі больш чым праз паўстагоддзя ў сценах касцёла з вуснаў пробашча Аляксандра Грыцкевіча зноў загучала Божае слова і была адпраўлена святая Імша. Цяпер стала традыцыяй кожны год адзначаць успамін святога Антонія Падуанскага ў нашай святыні.*

*Мы вельмі ўдзячныя ксяндзу Аляксандру Грыцкевічу за ахвярную працу, за добрае сэрца, за змястоўныя казанні, за мудрыя парады, за цёплыя адносіны да ўсіх вернікаў. Віншуем ксяндза Аляксандра з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў і з Вялікаднем! Жадаем шмат радасці, цярплівасці, моцнага здароўя, поспехаў у душпастырскай працы, добразычлівых людзей на святарскім шляху, адданых і ўдзячных вернікаў!*

***Парафіяне з в. Мікалаёва (Дзісненская парафія)***

## Віншуем!
## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*11 красавіка спаўняецца 35 год нашаму шаноўнаму* ***ксяндзу Валерыю Орсіку****. Ад шчырага сэрца віншуем яго з нагоды дня нараджэння.*

*Жадаем моцнага здароўя, Божых ласкаў, дароў Духа Святога, апекі Панны Марыі, багатага плёну на Божай ніве. Віншуем таксама з Вялікаднем і днём святароў. Дзякуем Богу, што ў нас праце такі святар з добрай душой, які сваім асабістым прыкладам, учынкамі, малітвамі, казаннямі падчас Імшы прыцягнуў да сябе і святыні не толькі дарослых людзей, але дзяцей і моладзь.*

*Сардэчна дзякуем за ахвярную працу, за адданасць цудоўнаму дару святарства. Сіл Вам для рэалізацыі Вашых планаў і намераў, аптымізму, адкрытых людскіх сэрцаў!*

***З павагай і ўдзячнасцю парафіяне парафіі Беззаганнага Сэрца Марыі ў Оршы***

## Шаноўны ксёндз-пробашч Ігнат Санюта!

*Віншуем Вас з Днём нараджэння!*

*Мы, Вашы парафіяне, жадаем Вам моцнага здароўя, каб доўга служылі людзям, каб вялі за сабой не адно пакаленне, каб дапамагалі знайсці сапраўдную дарогу ў жыцці тым, хто не знайшоў яшчэ шлях да Бога. Жадаем бадзёрасці і аптымізму, цярпення і вытрымкі. Няхай Ваша вера, Вашае жыццё з Богам прыносіць шмат радасці Вам і навакольным. Зычым Вам Божага блаславення і апекі Маці Божай! Няхай Міласэрны Бог узнагародзіць за ўсё добрае, што Вы робіце!*

***Данута Чэркас – па даручэнні вернікаў парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў в. Ахрэмаўцы (Браслаўскі раён)***




## Якіх слоў не хапае?

**Разам з бацькамі прачытай поўны тэкст урыўка з Евангелля паводле Лукі. (24, 1-8). На месцы кропак устаў патрэбныя словы, якіх не хапае.**

У першы дзень тыдня, на досвітку, .... прыйшлі да магілы, несучы прыгатаваны пахучы алей. І ўбачылі ...., адсунуты ад магілы. Але, увайшоўшы, не знайшлі .... Калі яны стаялі ў разгубленасці, раптам з'явіліся перад імі .... ў бліскучым адзенні. Напалоханыя жанчыны схілілі твары свае да зямлі, а тыя сказалі ім: "Чаму вы шукаеце ... сярод мёртвых? Яго тут няма; Ён ....

## Выпішы літары

**Выпішы ўсе літары чырвонага колеру, і ты даведаешся, якімі словамі трэба віншаваць бацькоў, іншых сваякоў, сяброў і знаёмых са святам Уваскрасення!**




## Злучы кропкі

**Злучы кропкі па парадку і даведайся, што з'яўляецца сімвалам жыцця? Атрыманы малюнак расфарбуй.**



## Злучы

**Злучы стрэлкамі куранят з яйкамі, знайшоўшы аднолькавыя ўзоры для кожнага.**



*Выразна прачытай верш і раскажы яго сваім блізкім*

Сёння ўваскрос Збавіцель,
Ўсяго свету Адкупіцель.
Свята радасці, вясны,
Разам адзначаем мы.

У касцёл бягу я ранкам,
Усіх віншую на світанку.
І кажу: "Хрыстос уваскрос"!
Людзям шчасце Ён прынёс

## Напоўні велікодны кошык

Намалюй у кошыку ежу для велікоднага стала, якую ты разам з бацькамі панясеш асвячаць у касцёл.



## Разгадай крыжаванку

**Па гарызанталі**

1. Што абмываў Езус вучням падчас Апошняй Вячэры?
2. Хто прадаў Езуса за 30 срэбраных манет?
3. Імя вязня, якога Пілат выпусціў замест Езуса?
4. Дзень тыдня, калі ўваскрос Хрыстос?
5. Хто сказаў жанчынам, якія прыйшлі памазаць цела Езуса духмянасцямі, што Ён уваскрос?

**Па вертыкалі**

1. Як называецца мясцовасць, дзе ў ноч перад укрыжаваннем у садзе маліўся Езус, калі вучні спалі?
2. Хто з вучняў тройчы адрокся ад Езуса?
3. Як называецца месца ўкрыжавання Езуса? Лобнае месца або...
4. Калі адзін з жаўнераў прабіў дзідаю бок Езусу, выцекла кроў і...
5. Самае вялікае каталіцкае свята, якім заканчваецца Вялікі пост?

## Знайдзі схаванае слова

Палічы, колькі разоў у табліцы схавана слова "Вялікдзень". Кожнае слова "Вялікдзень", якое знойдзеш, выдзелі маркерам. Усе словы размешчаны па гарызанталі.

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Б | І | Б | Л | І | Я | В | Я | Л | І | К | Д | З | Е | Н | Ь | Е | В | А | Н | Г | Е | Л | Л | Е | М | А | Р | Ы | Я |
| К | А | С | Ц | Ё | Л | Д | А | Р | В | Е | Р | А | М | У | Д | Р | А | С | Ц | Ь | А | Й | Ц | Е | Ц | Н | Е | Б | А |
| Б | І | С | К | У | П | А | П | О | С | Т | А | Л | В | Я | Л | І | К | Д | З | Е | Н | Ь | М | А | Л | І | Т | В | А |
| З | Б | А | Ў | Ц | А | Т | А | Я | М | Н | І | Ц | А | Р | У | Ж | А | Н | Е | Ц | Е | З | У | С | П | А | В | Е | Л |
| І | З | Р | А | І | Л | Ь | І | Р | А | Д | В | Я | Л | І | К | Д | З | Е | Н | Ь | П | Р | А | Р | О | Ц | Т | В | А |
| Н | О | Й | В | Я | Л | І | К | Д | З | Е | Н | Ь | Х | Р | О | С | Т | В | Я | Л | І | К | Д | З | Е | Н | Ь | Я | Н |
| Д | У | Ш | А | С | Т | В | А | Р | Ы | Ц | Е | Л | Ь | В | Я | Л | І | К | Д | З | Е | Н | Ь | Ч | Ы | С | Ц | Е | Ц |
| С | П | О | В | Е | Д | З | Ь | В | Я | Л | І | К | Д | З | Е | Н | Ь | С | У | М | Л | Е | Н | Н | Е | Г | Р | Э | Х |
| К | Р | Ы | Ж | П | Ё | Т | Р | Д | У | Х | С | В | Я | Т | Ы | В | Я | Л | І | К | Д | З | Е | Н | Ь | А | Н | Ё | Л |
| Ю | З | А | Ф | В | Я | Л | І | К | Д | З | Е | Н | Ь | Э | Ў | Х | А | Р | Ы | С | Т | Ы | Я | Н | А | Д | З | Е | Я |

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *Ідэя:* ***Ірына Грэйць***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**27 сакавіка 2016 г.**

***Ян 20, 1-9***

Аповед пра Змёртвыхпаўстанне Хрыста з Евангелля Святога Яна сучаснаму чалавеку можа падацца празмерна складаным. Выхаваныя сучаснымі кінапрадуктамі і пабожнымі казкамі, мы прывыклі атрымліваць растлумачаную, зразумелую і адназначную інфармацыю на ўзроўні нашага ўспрымання рэчаіснасці. Тым часам тут маем справу з дзеяннем магутнага Бога. Бог аб'яўляецца сваім вучням. Гэты працэс распачаўся напярэдадні Пасхі і асаблівым чынам будзе адбывацца ў дзень Спаслання Святога Духа. Кожны з герояў сённяшняга Евангелля ўдзельнічае ў вялікім адкрыцці пустой грабніцы па-свойму, згодна са сваімі магчымасцямі і Божым планам. Марыя, якая першай сустракае Езуса і расказвае пра гэта астатнім. Пётр, які прыходзіць, каб у якасці"афіцыйнай асобы" ўбачыць пустую грабніцу. Ян, які ўбачыў і паверыў. Для нас сённяшні тэкст – запрашэнне ўважліва слухаць сведчанне Касцёла пра пустую грабніцу, старанна разважаць над Божым Словам, у Якім Бог тлумачыць нам сэнс Пасхі, і супрацоўнічаць з Богам, Які кожнага з нас вядзе аднаму Яму вядомай дарогай.

*– Ці час Вялікага Посту наблізіў мяне да Хрыста?*

*– Ці ўдзельнічаў я ў Святым Трыдыуме?*

*– Ці знайшоў я час і жаданне, каб разважаць над сэнсам кожнага дня?*

*– Ці прытуліў сваё сэрца да Езуса?*

*– Ці аднавіў свае адносіны з Ім?*

*– Ці няма адчування, што святочны час хутка прыйшоў і гэтаксама хутка прайшоў?*

*– Ці разумею, што Велікодны перыяд – гэта спрыяльны час, каб радасна і спакойна перажываць Пасхальную таямніцу?*

*– Ці збіраюся ўдзельнічаць ў Актаве Пасхі? (8 дзён пасля Пасхальнай нядзелі).*

*– Ці збіраюся падчас пасхальнай радасці акунацца ў таямніцу Жывога Бога, прысутнага ў маім жыцці?*

**3 красавіка 2016 г.**

***Ян 20, 19-31***

У год Божай Міласэрнасці ў Нядзелю Міласэрнага Бога звяртаем увагу на тэму міласэрнасці ў сённяшнім Евангеллі. Вучні атрымліваюць ад Змёртвыхпаўсталага Езуса ўладу адпушчэння грахоў. Дзейнасць Хрыста працягваецца ў іх дзейнасці. Хрыстус-Пераможца, Які мае ўладу над смерцю і над грэхам, працягвае сваю справу збаўлення чалавека ў супольнасці Касцёла. Менавіта ў супольнасці Касцёла мы атрымліваем новае жыццё Божых дзяцей. Касцёл вядзе нас да вечнага жыцця ў небе. Кожны ў гэтай супольнасці выконвае сваю функцыю. Падобна як у целе ёсць розныя члены, так і ў Касцёле Хрыстовым, галавой якога з'яўляецца Езус. А ўсе разам мы ўдзельнічаем у справе міласэрнасці, якую Хрыстус праз нас нясе ў сучасны свет.

*– Ці з адпаведнай адвагай стаўлюся да супольнасці Касцёла?*

*– Ці разумею, што гэта супольнасць, праз якую Езус захацеў прынесці свету міласэрнасць?*

*– Ці веру ў Божае дзеянне ў Сакраманце пакаяння?*

*– Ці малюся за свайго ксяндза-спаведніка?*

*– Як і што гавару пра святароў і біскупаў?*

*– Ці з любоўю гляджу на недахопы святароў?*

*– Што раблю, каб дапамагчы ім навярнуцца?*

*– Ці з'яўляюся сведкам Божай міласэрнасці?*

*– Ці ахвотна і плённа карыстаюся дарам споведзі?*

*– Ці будую ў свеце міласэрнасць словам і настаўленнем?*

*– Ці дапамагаю ўбогім, ці суцяшаю засмучаных?*

*– Як перажываю Год Міласэрнасці?*

*– Ці ўсведамляю, што мая міласэрнасць з'яўляецца адначасова дзеяннем Касцёла?*

*– Ці разумею, што праз маю міласэрнасць Езус праяўляе Сваю любоў да свету?*

**10 красавіка 2016 г.**

***Ян 21, 1-14***

Змёртвыхпаўсталы Езус працягвае выхоўваць сваіх вучняў. Ян ужо навучыўся пазнаваць здалёк Езуса, Які аб'явіўся пасля ўваскрашэння ў змененым выглядзе. Пётр ужо рашуча плыве да Езуса. Яго зламанае грахом сэрца вельмі сумуе па Езусу. І ўсе астатнія бачаць перамянёнага Езуса і прызнаюць у Ім Пана Бога. Лоўля рыбы была для іх знакам і напамінам пра ранейшае жыццё з Езусам. Яны ўжо навучыліся бачыць знакі і разумець іх сэнс. Умеюць ужо ісці за словам Пана, хоць і не ўсё адразу разумеюць. Ведаюць, што Ён выводзіць іх на дарогу таямніц, якія паступова раскрывае перад імі. А яны з даверам акунаюцца ў іх, робячы свае сэрцы адкрытымі на натхненні Святога Духа.

*– Ці дазваляю я Богу рабіць у маім жыцці ўсё, што Ён хоча?*

*– Ці не хачу Бога "памерыць", "узважыць" і зразумець сваім малым чалавечым розумам?*

*– Ці дазваляю Богу выхоўваць, перамяняць і навяртаць самога сябе?*

*– Ці імкнуся зразумець Божую волю, сэнс Божага слова і Божых знакаў у сваім жыцці?*

*– Ці разумею Божую мову, якой Ён прамаўляе да мяне?*

*– Ці правяраю правільнасць свайго разумення Божай волі ў духоўным настаўніцтве, у аўтарытэтным вучэнні Касцёла?*

*– Чаму Бог мяне ўжо навучыў?*

*– У якім месцы духоўнага развіцця я знаходжуся?*

*– Што Бог хоча, каб я зрабіў зараз?*

*– З выкананнем якой Божай волі я маруджу ў сваім жыцці?*

*– У якія справы баюся акунуцца, хоць Бог і раскрывае іх перада мной?*

*– Ці гатовы я ісці дарогай, поўнай прыгодаў, за святым Духам?*

**20 красавіка 2016 г.**

***Ян 10, 27-30***

Езус – наш Пастыр. Пераможца, Які змагаўся за нас аж да смерці. Мы Яго авечкі, калі паслухмяныя. Ён ведае нас, ведае нашы слабыя і моцныя бакі, ведае больш і лепш, чым мы самі сябе. Мы ідзём Яго дарогай. Ужо зараз Ён дае нам вечнае жыццё. З Ім мы не прападзём. З Ім мы не трапім у пекла. Трэба толькі не страціць Яго ў дарозе, не збочыць з яе, не выпусціць Божай рукі.

*– Ці шукаю я Божую волю?*

*– Ці малюся?*

*– Ці размаўляю з Езусам пра Яго месца ў маім жыцці?*

*– Ці слухаю голас Хрыста-Пераможцы?*

*– Ці ведаю, што мае беды – гэта і Езусава справа?*

*– Ці дапускаю Езуса да спраў майго сэрца?*

*– Ці давяраю свае нават дробныя справы Езусу ў спаведніцы?*

*– Ці адважна змагаюся з перашкодамі жыцця, ведаючы, што Езус са мной?*

*– Ці дазваляю Езусу перамагаць мой страх і іншыя пачуцці, якімі шатан хоча адвярнуць мяне з дарогі любові?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры! Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.**

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ірына Кончыц** *(Гомель)*, **Генадзь Маркоўскі** *(Маладзечна)*, **Ганарата Ляхновіч** *(Барысаў)*, **З.І. Воранава** *(Шуміліна)*, **Людміла Сушко** *(Докшыцы)*, **Вольга Парневіч** *(в. Крулеўшчына)*, **Руфіна Адамовіч** *(в. Павяцце, Мёрскі р-н)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Г.М. Плюшчык** *(в. Кахановічы, Верхнядзвінскі р-н)*, **Генадзь і Леаніда Шаблоўскія** *(в. Савуткі)*, **Алена Балай** *(в. Мосар)*, **Станіслава Жук** *(в. Мосар)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, *Вацлава Скрага (Падсвілле)*, **Камілія Емяльянава** *(в. Дунілавічы)*, **Рэгіна Бука** *(в. Радзюкі)*, **парафіяне з Браслава, Валерый Ракуцкі** *(Браслаў)*, **Вацлаў Пашкевіч** *(в. Бігосава, Верхнядзвінскі р-н)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Ядвіга Розель** *(Ашмяны)*, **Ірэна Сіманенкава** *(в. Мосар)*, **Галіна Міхалевіч** *(в. Мосар)*, **Леакадзія Пазняк** *(в. Прусы, Пастаўскі р-н)*, **Яніна Кабяк** *(Паставы)*, **Аліна і Уладзімір Бервячонак** *(в. Прусы, Пастаўскі р-н)*, **Марыя Кавалеўская** *(Докшыцы)*, **Ганна Жылевіч** *(в. Цэнтральная, Іўеўскі р-н)*, **Віталь Леановіч** *(Віцебск)*, **парафіяне з Ветрына, Марына Мяцёлкіна** *(Рубяжэвічы)*, **Пачкоўскія Юстын і Данута** *(Савуткі)*, **Лілія Мацюшонак** *(в. Прошкава)*, **Галіна Сінкевіч** *(Глыбокае)*, **Людміла Бараноўская** *(в. Муляры, Пастаўскі р-н)*, **Вільгельміна Барткевіч** *(в. Муляры, Пастаўскі р-н)*, **Крысціна Букатава** *(в. Муляры, Пастаўскі р-н)*, **Генавефа Дубіловіч** *(в. Муляры, Пастаўскі р-н)*, **Таццяна Рамейка** *(в. Муляры, Пастаўскі р-н)*, **Яніна Сінкевіч** *(в. Муляры, Пастаўскі р-н)*, **Тэрэса Пылінская** *(в. Цябуты, Пастаўскі р-н)*, **Вераніка Абуховіч** *(в. Дунілавічы)*, **Лілія Кучынская** *(в. Скрэндзевічы, Дзятлаўскі р-н)*, **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(в. Старыя Габы, Мядзельскі р-н)*, **Эвеліна Клімантовіч** *(в. Бярозаўка, Лідскі р-н)*, **Кацярына Юдыцкая** *(в. Савуткі)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

**Місевіч Віктар Мар'янавіч**
**вул. Савецкая, 1**
**211800 г. Глыбокае**
**Віцебскай вобл.**

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

**Усіх сардэчна віншуем са Святам Вялікадня! Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!**

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Не магу маўчаць!

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

Не магу маўчаць! Мяне вельмі хвалююць некаторыя выказванні сп. Леаніда Гулякі. Я за тое, каб у Беларусі працавалі святары з Польшчы і надалей.

Некаторы час у нас працаваў а. Томаш Юнчык, паляк. Гэта дасціпны, высакародны і інтэлігентны святар. Вельмі прынцыповы ў выкананні абавязкаў і паслухмяны Божай волі, поўны ідэяў і прагі стварэння. Магу толькі падзякаваць Пану Богу за спатканне з гэтым святаром!

У сэрцах вернікаў нашай і іншых парафій гучыць падзяка святарам з Польшчы, якія працавалі і цяпер працуюць у Беларусі і з любоўю вядуць нас да ісціны, да духоўнага прасвятлення, да вышыняў хрысціянскай веры.

Таксама мяне вельмі хвалюе, што 2 лістапада, калі мы разам са святаром прыходзім на могілкі, каб памаліцца і запаліць знічы па нашых памерлых, не заўсёды могуць прысутнічаць дзеці і ўнукі каталікаў. Не так часта 1 і 2 лістапада прыпадае на выхадны дзень. І пры ўсім жаданні тыя, хто працуе і жыве далёка, не ў стане наведаць могілкі сваіх родных разам з каталіцкай супольнасцю. Спадар Леанід Гуляка, я вельмі хацела б, каб Вы нас пачулі і змаглі зразумець!

***З павагай, Галіна Глушкевіч***
*(парафія св. Яна Хрысціцеля ў Валкалаце)*

## Ліст з Браслава

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

Я з'яўляюся чытачкай "Каталіцкага Весніка". Дзякую за працу кс. Віктару Місевічу, рэдакцыі газеты. Вельмі цікава чытаць яе, пазнаваць Божае слова.

Хачу расказаць пра ружанцовую групу "Яднанне ў цярпенні з Хрыстом", якая створана ў браслаўскім касцёле ў 2000 годзе ксяндзом Лешакам Вітвіцкім. У ёй больш за 300 чалавек, нават ёсць удзельнікі з іншых парафій: з Віцебска, Ахрэмаўцаў, Мёраў і г.д.

Кожны месяц мы молімся за памерлых і жывых, якія пералічаны на лістках. Кожны адмаўляе сваю таямніцу. У пачатку месяца адпраўляецца святая Імша за малітоўную групу. Мы вельмі чакаем гэтыя аркушы, якія прыгожа аформленыя і з прыгожымі малітвамі. З іх мы даведаліся пра святара-паэта Казіміра Сваяка. Запомніліся яго словы: *"Не рань свайго трывожнага сэрца, не бойся нічога, усё прамінае, усё, апроч Бога"*. Такі матэрыял рыхтуе арганістка Іна Сапун, дапамагае ёй Ганна Карла. Патрэбна шмат часу, каб сабраць усе матэрыялы для нас. Таму мы вельмі ўдзячныя Іне, ксяндзу Станіславу за іх працу, за малітвы.

Апошняе наша спатканне было 11 лютага, у дзень Маці Божай з Лурду, калі разам маліліся за хворых.

Яшчэ хачу выказаць сваё меркаванне пра словы сп. Гулякі адносна беларускай мовы ў Касцёле. Я лічу, што мы горш ведаем мову, чым святары-палякі. На святой Імшы кс. Тадэвуш Кахановіч, кс. Адам Квяткоўскі, кс. Станіслаў Мжыглуд, кс. Лешак Вітвіцкі дэманструюць добрае валоданне нашай мовай.

***Удзельніца малітоўнай групы Леанарда***



# Віншуем біскупа!

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

18 сакавіка святкуе Дзень нараджэння паважаны **біскуп Алег Буткевіч**, якога Бог надзяліў вялікай прыгажосцю душы, дабрынёй і сціпласцю, мудрасцю ў духоўнай справе. Спакойна, але ўпэўнена даносіце Вы да нас, вернікаў, гаміліі, якія хочацца слухаць зноў і зноў. Сваім прыкладам Вы запальваеце агонь любові да Айца Нябеснага ў нашых сэрцах.

Ад усяго сэрца віншуем Вас, біскуп Алег, з нагоды Дня нараджэння, а таксама з надыходам Светлай Хрыстовай Пасхі! Жадаем Вам моцнага здароўя, радасці, шчодрых дароў Духа Святога. Няхай Пан Езус, якога Вы кожны дзень трымаеце ў сваіх руках, прытуляе Вас да свайго сэрца і благаслаўляе на доўгія гады служэння Богу і людзям! Няхай Маці Божая, Якая даручыла ў Вашы рукі свайго Сына, ахінае Вас сваім нябесным плашчом ад небяспекі і атуляе мацярынскай любоўю!

Гонар і хвала бацькам паважанага біскупа Алега за тое, што іхняя жыццёвая ніва дала добры плён.

Супакой Хрыста няхай заўсёды будзе з Вамі!

*З пашанай і падзякай – святары, сёстры-эўхарысткі і вернікі Браслаўскай парафіі Нараджэння Маці Божай*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

18 сакавіка ў прыгожы веснавы дзень на зямлі пад белымі крыламі на сінявокай Браслаўшчыне з'явіўся на свет будучы наш **біскуп Алег Буткевіч**. Пан Бог надзяліў яго вялікай прыгажосцю душы і цела, дабрынёй і сціпласцю, вялікай мудрасцю ў духоўнай справе. Біскуп Алег Буткевіч з тых людзей, якія запамінаюцца на ўсё жыццё. Ад размовы з ім, ад яго ўсмешкі і добразычлівасці робіцца вельмі цёпла на сэрцы.

Шчыра віншуем Вас, шаноўны біскуп Алег, з Днём нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, сілы, цярплівасці на гэтым нялёгкім шляху, на які паклікаў Вас Пан Бог. Няхай Міласэрны Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца! Няхай Маці Божая Браслаўская, выяву якой Вы носіце ў сваім гербе, абараняе Вас ад небяспекі і атуляе мацярынскай любоўю!

*З павагай і ўдзячнасцю, пробашч парафіі св. Пятра і Паўла ў Дрысвятах кс. Генадзь Ляўкоў і ўсе парафіяне*

## Віншаванне з Ветрына

Шчыра віншуем паважанага **біскупа Алега Буткевіча** з Днём нараджэння!

Жадаем моцнага здароўя, непахіснай веры, Божай ласкі і апекі Маці Божай. Няхай у сэрцы заўсёды палае любоў да Бога і людзей навокал, а з твару хай не знікае ласкавая ўсмешка!

*Вернікі парафіі бл. Юрыя Матулевіча ў Ветрыне*

## Віншуем біскупа!

**Віншуем паважанага біскупа Алега Буткевіча з нагоды Дня нараджэння!**

Шаноўны біскуп Алег! Ад шчырага сэрца жадаем Вам моцнага здароўя, бо Ваша праца гэтага патрабуе, усіх Божых ласкаў па адраджэнні і ўзмацненні нашай веры, апекі Маці Божай на нялёгкім шляху, стойкасці, натхнення і цярплівасці! Мы заўсёды разам з Вамі і молімся за Вас да Пана. Сардэчна дзякуем Вам за Вашу веру і добразычлівасць, за сціпласць і павагу да людзей!

*З павагай і любоўю, святары, сёстры законныя і ўсе вернікі касцёла Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Дзевы Марыі ў Паставах*

## Хвала Хрысту!

Пачатак года ў віцебскай парафіі Езуса Міласэрнага заўсёды неяк асабліва ўзнёслы ў пачуццях і настрої вернікаў. І адбываецца тое, напэўна, таму, што разам з іншымі святамі гэтай пары на кароткі адрэзак часу прыпадаюць святкаванні падзей, якія нашыя вернікі ўспрымаюць як даты сваёй парафіі, парафіі катэдральнага касцёла.

18 студзеня – гадавіна біскупскага пасвячэння ардынарыя Віцебскай дыяцэзіі **біскупа Алега Буткевіча**. 26 лютага – яго ж імяніны. А 18 сакавіка адзначаецца Дзень нараджэння нашага паважанага пастыра. У гэты час асаблівай цеплынёй напаўняюцца сэрцы парафіян. З радасцю і ўдзячнасцю мы выказваем яму свае пачуцці і пажаданні.

Біскуп – гэта не толькі высокая годнасць і місія, але і вялікая адказнасць і нялёгкі абавязак навучаць, асвячаць і кіраваць. *"Біскуп – знак прысутнасці Хрыста ў свеце,"*– пісаў святы Ян Павел ІІ.

І мы бачым, як шмат працуе Яго Эксцэленцыя, як турбуецца аб праблемах дыяцэзіі, як узрастае духоўна. Мы асабліва заўважаем гэта ў яго гарачых, змястоўных, поўных думак і ведаў казаннях. У тым, з якім запалам, імпэтам жадае ён данесці нам у кароткіх выказваннях разуменне высокіх праўдаў. Касцёл заўсёды слухае яго амаль не дыхаючы.

Мы бачым, што клопат кіравання вялікай гаспадаркай дыяцэзіі не перашкаджае біскупу заставацца ўважлівым і чулым да турботаў кожнага суразмоўцы. Да яго можна звярнуцца па параду, з нейкай сваёй асабістай заклапочанасцю, і ніколі вы не атрымаеце адмовы або спасылкі на занятасць, а будзеце ўважліва выслуханыя і пачуеце словы парады або падтрымкі і надзеі.

Дзякуем Пану Богу за тое, што даў нам такога пастыра! Дзякуем бацькам, якія вырасцілі і выхавалі такога годнага чалавека!

Віншуючы Яго Эксцэленцыю з Днём нараджэння, мы жадаем яму сілаў, высокіх памкненняў, вытрымкі і настойлівасці ў дасягненні пастаўленых мэтаў. Зычым яму здароўя, бадзёрасці, аптымізму і плённай дзейнасці пад Божым благаслаўленнем на яшчэ шмат гадоў.

З гарачай любоўю і спагадай мы будзем, як зможам, дапамагаць яму. З Днём нараджэння, біскуп Алег!

*Вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску*





# Каталіцкая парафія ў Росіцы запрашае на Свята буслоў

**Айцец Чэслаў Курэчка MIC запрашае ў Росіцу на Свята буслоў, якое запланавана на 30 красавіка.**

Асноўныя ідэі свята:

- абарона беларускіх сем'яў перад сучаснымі выклікамі;
- малітва за Беларусь;
- клопат пра навакольнае асяроддзе ў Беларусі.

"Бусел – сімвал Беларусі і сімвал сям'і. Хочацца падкрэсліць гэтым святам неабходнасць абароны нашай Бацькаўшчыны і сям'і ад усякага зла. Калі ў беларусаў будуць святыя і добрыя сем'і, ніякая бяда нам не страшная. І, канешне, мяне як аматара прыроды хвалюе



экалагічны стан нашай зямлі. Папа Францішак заклікае ў сваёй энцыкліцы "Laudato si" бараніць прыроду, бо яна – Божы дар. Таму вось такім птушыным святам, спадзяюся, нам удасца яшчэ раз нагадаць пра сур'ёзныя выклікі нашага часу і заахвоціць людзей змагацца з імі", – падзяліўся святар пра сваю новую мару.

Яшчэ на дварэ сакавік, а ў Росіцы ўсё ўжо прадумана. Гатовыя нават тры буслянкі.


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1725

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3600 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 23.03.2016 г. у 10.01

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621





Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь